


# Рэгіянальная газета

23 жніўня 2013 года
№ 34 (956)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

**Вучыцца даглядаць за зубамі ніколі не позна!**

21-я старонкі

**Скураны абутак шукайце ў крамах.**

3-я старонка


- **Мехатронік і іншыя сёлетнія навінкі ў каледжах.** /2-я старонка.
- **Як падабраць абутак правільна?** /3-я старонка.
- **Віляйчанін ударыў жонку не менш за 70 разоў рукамі, нагамі і абухом сякеры.** /4-я старонка.
- **Адпачынак у Крыме: танна і якасна?** /19-я старонка.


## навіны рэгіёна

### Выставу дызайнера адкрые дэфіле

**ВІЛЕЙКА.** У выставачнай зале імя Сілівановіча Вілейскага краязнаўчага музея 27 жніўня а 17 гадзіне адбудзецца адкрыццё выставы дызайнера адзення віляйчанкі **Таццяны Уладыкі,** пазаштатнага аўтара "РГ". Пра гэта распавяла навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. На выставе пакажуць эскізы да першай калекцыі Тацццяны Уладыкі "Silk jazz melody" і адзенне на манекенах. Працягнецца выстава да канца верасня.

### Драўляныя скульптуры ўстанавілі ў Мядзеле

**МЯДЗЕЛ.** На вуліцах Мядзела стаяць новыя драўляныя скульптуры. Гэта ў асноўным творы на дзіцячую тэматыку і па матывах нарачанскіх паданняў. Стварылі іх студэнты кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, якія нядаўна ўдзельнічалі ў пленэры разьбяроў у райцэнтры. Сярод студэнтаў была і кітаянка **Шунін Чэн**. Яе твор размешчаны насупраць дзіцячай школы мастацтваў.

### П'яны расеец без штаноў раскалаціў вітрыну

**СМАРГОНЬ.** У аб'ектыў камеры відэаназірання трапіў 42-гадовы жыхар Калінінграда. Як ён апынуўся ў вёсцы Солы, можна толькі здагадвацца, паведамляе тэлеканал АНТ. П'яны расеец адправіўся ў краму — праўда, без штаноў. Разбіў вітрыну, выйшаў на вуліцу і яшчэ разбіў вокны ў доме пенсіянеркі. Працвеserved, расеец так і не здолеў назваць краіну, дзе знаходзіцца.

**Аддзел інфармацыі.**



# "Вечарынка ў Паўлінкі"

## Праз сто год зноў у Радашкавічах

Фота Ягора ГАРАЯ.

Музыкі стваралі сапраўдную атмасферу беларускіх вечарынак пачатку 20 стагоддзя. 15 жніўня 2013 у Радошкавічах.

**МАЛАДЗЕЧНА. Свята, прысвечанае 100-годдзю пастаноўкі п'есы "Паўлінка" ў Радашкавічах, адбылося 15 жніўня.**

Сярод апошніх імпрэзаў, на якіх я быў, гэтая найлепшая! – ацаніў вечарыну краязнаўца **Міхась Казлоўскі**. – Усё было жыва, натуральна, да месца і з навізной. Мне рэдка якія мерапрыемствы па-сапраўднаму падабаюцца, а гэтае вельмі спадабалася.

Спачатку госці сабраліся ля помніка Янку Купалу каля Радашкавіцкага цэнтра культуры і адпачынку. Да прысутных звярнуліся дырэктар дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы **Алена Ляшковіч**, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Рамановіч**, пісьменнік **Анатоль Бутэвіч**, краязнаўца Міхась Казлоўскі.

У зале цэнтра культуры размясцілі стэнды, на якіх прадэманстравалі фотаздымкі песняра, газеты "Наша ніва", рукапісы. Тут выступілі паэт **Віктар Шніп** і літаратуразнаўца **Пятро Васючэнка**.

Потым гасцей чакалі народныя песні і танцы.

### Пяць фактаў пра "Паўлінку"

Міхась Казлоўскі ў інтэрв'ю "РГ" паведаміў пра некаторыя факты, звязаныя з першай пастаноўкай "Паўлінкі" ў Радашкавічах.

1. У Мінску паказ забаранілі. Да таго, каб ён адбыўся ў Радашкавічах, прыклаў намаганні **Андрэй Снітка**, вядомы гісторык, мясцовы пан, сваяк **Аляксандра Уласава** (першага рэдактара "Нашай Нівы").

2. У Радашкавічах (менавіта так у той час называлі мястэчка) 15 жніўня 1913 года галоўную ролю выканала **Аляксандра Ліпніцкая**. На прэм'еры у Вільні 27 студзеня таго ж года Паўлінку выконвала **Соф'я Маркевіч**, а ў Пецярбургу 9 лютага 1913 – **Паўліна Мядзёлка**.

3. Прысутнічалі ўсе прататыпы галоўных герояў. Але яны перад праглядам добра выпілі, таму ўспрымалі спектакль лагодна.

4. Сярод прысутных былі **Янка Купала**, **Ядвігін Ш.**, **Аркадзь Смоліч**, **Фларыян Ждановіч** (выконваў ролю Якіма Сарокі), **Тодар Куніцкі**, яго сястра **Ганна Куніцкая** (пазней выконвала ролю Паўлінкі ў Радашкавіцкай беларускай гімназіі імя Францыска Скарыны), **Адам Бельдзюкевіч**, **Вера Снітка** (першая жонка **Браніслава Тарашкевіча**).

5. "Паўлінка" задумвалася як праічны твор. Аднак пазней Янка Купала вырашыў зрабіць п'есу. Верагодна, таму, што беларускі тэатр пачаў развівацца, таму адчуваўся востры недахоп у нацыянальным рэпертуары.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Заканчэнне тэмы на 20-й старонцы.**

АДУКАЦЫЯ

# З'явіліся новыя спецыяльнасці

## Мехатронік і іншыя сёлетнія навінкі ў каледжах

**ВІЛЕЙКА. МАЛАДЗЕЧНА. Новыя спецыяльнасці з гэтага года ў нашым рэгіёне ўвялі толькі ў вілейскім і маладзечанскім каледжах.**

У "Вілейскім прафесійна-тэхнічным каледжы" адкрылі новую спецыяльнасць – аўтасэрвіс. Навучэнцы пасля заканчэння атрымаюць прафесію механіка.

Да спецыяльнасці слесар па рамонце машын; кіроўца катэгорыі "С" дадалі спецыяльнасць электразваршчыка. Раней ў каледжы атрымлівалі толькі спецыяльнасць электраманцёра па рамонце і абслугоўванні электраабсталявання, цяпер да яе дадалі спецыяльнасць станочнік дрэваапрацоўчых станкоў.

У "Маладзечанскім прафесійна-тэхнічным каледжы" ўвялі дзве новыя спецыяльнасці: абліцоўшчык-плітачнік, укладчык падлогавых пакрыццяў, слесар па кантрольна-вымяральных прыборах і аўтаматыцы і электраманцёр ахоўна-пажарнай сігналізацыі. Конкурс на апошнюю – ужо 1,5 чалавека на месца.

У політэхнічным каледжы ўвялі спецыяльнасць мехатроніка. У ёй злучаюцца дзве спецыяльнасці: механіка і электроніка. Для паступлення трэба было здаваць два экзамены: па мове і матэматыцы. Па мове пісалі дыктант, а матэматыку здавалі вусна. Пасля вучобы абітурыенты будуць размеркаваныя на буйныя прадпрыемствы харчовай галіны прамысловасці.

Па спецыяльнасці лячэбная справа ў медыцынскім каледжы пашырылі кваліфікацыю студэнтаў. Зараз у дыпломе ў іх будзе напісана: "Фельчар-акушэр. Памочнік доктара па амбулаторна-паліклінічнай дапамозе".

**Галіна СІНІЦА.**

## Не хапае 20 настаўнікаў-замежнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У школы Маладзечаншчыны накіравалі толькі шэсць спецыялістаў па замежных мовах.**

– Найперш не хапае спецыялістаў па англійскай і нямецкай мовах, – кажа інспектар па кадрах аддзела спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Святлана Красненка**.

А вось запыт з настаўнікамі матэматыкі перавысілі. Па гэтым прадмеце на горад і раён заяўлялі сем спецыялістаў, а прыслалі восем. Таму з матэматыкамі праблема адпала.

Хапае і настаўнікаў па беларускай і рускай мове. Іх сёлета нават не размяркоўвалі.

Усяго па размеркаванні прыехала 67 настаўнікаў, з іх трое самі ўладкаваліся на працу. Сем чалавек накіравалі на раён: у Радашкавічы, Краснае і Чысць.

Маладых спецыялістаў атрымалі дзявятая школа і дзясятая гімназія. Сёлета ў гэтыя ўстановы адукацыі прыйдуць па шэсць новых настаўнікаў.

Па словах спадарыні Святланы, не ўсе спецыялісты маюць вышэйшую адукацыю. 15 новых настаўнікаў маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю.

Большасць настаўнікаў накіравалі з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Некаторых размеркавалі з Віцебскага, Гродзенскага і Гомельскага ўніверсітэтаў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## На канферэнцыі назвалі лепшыя школы

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 жніўня ў Маладзечне прайшла традыцыйная педагагічная канферэнцыя, тэма якой была "Прадпрымальнасць, творчасць, інтэлект – аснова абнаўлення адукацыі Маладзечанскага раёна" .**

Традыцыйным стала віітанне маладых спецыялістаў, а таксама узнагароджанне педагогаў, вучняў, устаноў адукацыі за высокія вынікі, дасягнутыя ў мінулым навучальным годзе.

Так, лепшымі ўстановамі адукацыі па арганізацыі кіраўнічай дзейнасці сталі: гімназія №10, сярэдняя школа №1 імя Янкі Купалы, Радашкавіцкая сярэдняя школа, цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці №19.

Лепшымі школамі па падрыхтоўцы да новага навучальнага году названыя: гімназія-каледж мастацтваў, сярэдняя школа №12, Лебедзеўская сярэдняя школа, Маркаўская сярэдняя школа, Заскавіцкі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад-базавая школа.

**Наталля ТУР.**

КОНКУРСЫ

## Першымі дажынкі сустрэлі кветкаводы

**АШМЯНЫ. 9 жніўня ў Ашмяны з усёй вобласці прыехалі ўдзельнікі конкурсу "Фарбы кветак – Дажынкі-2013".**

Ініцыятыва правядзення гэтага мерапрыемства належыць жыллёва-камунальнай гаспадарцы Гродзенскага аблвыканкама.

Усяго ўдзельнічала 17 каманд, якія падзялілі на дзве групы.

### Як размеркавалі прызавыя месцы?

У кожнай камандзе кваліфікаванае журы абрала пераможцу. У першай групе ў намінацыі "За лепшую кампазіцыю кветак" першае месца заняла Лідская жыллёва-камунальная гаспадарка. Другое месца "За адданасць і вернасць прафесіі" – "Гроднazеленбуд". Трэцяе – Смаргонская жыллёва-камунальная гаспадарка.

У другой групе пераможцай стала Ашмянская жыллёва-камунальная гаспадарка.

У намінацыі "Самы малады і лепшы работнік зялёнага будаўніцтва" ўзнагародзілі кветкавода Астравецкай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Вольгу Сімановіч**.

### Чым узнагароджвалі ўдзельнікаў?

Узнагароджвалі не толькі дыпломамі і каштоўнымі падарункамі, але і грашовымі прэміямі. За першае месца – мільён рублёў, за другое – 750 тысяч рублёў, за трэцяе месца – 500 тысяч.

Кожны дзень, гледзячы вынік працы майстроў, іх намаганні ацэньваюць жыхары Ашмян, а хутка скажаць сваё слова і госці абласных дажынак.

**Галіна СІНІЦА.**

СВЯТЫ

## Фестываль у Гальшанах пройдзе ў чацвёрты раз

**АШМЯНЫ. Сёлета фестываль "Гальшанскі замак – 2013" будзе праходзіць у чацвёрты раз.**

На фестывалі будуць не толькі беларусы, але і літоўцы і латышы.

Падрабязней распавяла начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Галіна Балінская**:

– Мерапрыемства можна падзяліць на тры часткі: першая – баль у Соф'і Гальшанскай, другая – рыцарскія турніры і апошняя – канцэртная праграма.

Для балю ўжо пашылі касцюмы на старажытны ўзор. Чакаюць гасцей з іншых замкаў Беларусі – Гародні, Міра, Нясвіжа і Крэва. Кожны творчы калектыў пакажа сваю тэатралізаваную пастаноўку.

Рыцарскія турніры будуць пешыя і конныя, таксама турніры лучнікаў, рыцарскія забавы і конкурсы.

**На фестывалі можна будзе паглядзець рыцарскія турніры і навучыцца танцаваць старажытныя танцы**

На працягу фестывалю будзе працаваць Горад майстроў, таму зможаце атрымаць майстар-класы па саломапляценню, скурапляценню, бісерапляценню.

Завітаюць у Гальшаны творчыя калектывы "Ціха навінка" з Літвы, народны ансамбль народнай песні "Жытніца". Гурты "Літы талер", "PAWA", "Agua Profunda", "Тэстамент", "Яварына", "Гістарыён" і "Фламея".

Адбудзецца прэзентацыя сумеснага паэтычнага зборніка паэтаў Ашмянскага і Віленскага раёнаў пад назвай "Сустрэчы" і даведніка "Гістарычны маршрут па ашмянскай узвышшанасці".

**Галіна СІНІЦА.**

СПАДЧЫНА

## Абмяркуюць праект рэканструкцыі бровара ў Стайках

**ВІЛЕЙКА. Прапановы і заўвагі па праекце варта накіроўваць у аддзел архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама ў пісьмовым выглядзе або фіксаваць у журнале ў фае райвыканкама.**

У фае будынка райвыканкама (першы паверх) ад 20 жніўня да 5 верасня ўключна з васьмі да васямнаццаці гадзін прадстаўлены архітэктурны праект "Рэканструкцыя з рэстаўрацыяй будынка збожжасклада (бровара) пад канцэртна-выставачную залу па адрасе: Вілейскі раён, Альковіцкі с/с 1, былая сядзіба "Двор Стайкі".

Пра гэта паведамляецца на сайце Вілейскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

СПАЖЫВЕЦ

# Скураны абутак шукайце ў крамах

**МАЛАДЗЕЧНА. Абутак з натуральнай скуры на маладзечанскіх рынках калі і знойдзеш, то толькі беларускі.**

Дзе і па якіх цэнах набываць абутак, высвятлялі карэспандэнты "РГ".

На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства ў адной палатцы прадаюць амаль аднолькавыя жаночыя туфлі. Усё каштуюць 280 тысяч рублёў, але гандлярка падгаворвае:

– Вось гэтыя некалькі пар – Кітай, а вось тое, што вы гледзіце – фабрычныя.

Розніцу пакупнік ніяк не ўбачыць, толькі што ў кітайскіх больш стразаў. Тым больш, што ўвесь абутак на рынку – з Расіі ці Кітая. Ён зроблены са скуразамяняльніка, бавоўны і іншых матэрыялаў, але натуральнай скуры тут вы не знойдзеце. На рэчывым рынку скураны абутак можна набыць, але выключна беларускай вытворчасці.

Жаночыя туфлі на рынку райспажыўтаварыства каштуюць каля 300 тысяч рублёў. Кеды што на рынку, што ў крамах абыдуцца каля 130 тысяч рублёў. Аднак калі вам пашанцавала на 35-37 памер нагі, можна паглядзець абутак у дзіцячых крамах.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Купляць абутак на рынку ці ў краме – асабістая справа кожнага.

Такія ж самыя кеды, толькі для дзяцей, можна знайсці на 20 тысяч танней. У гэтых жа крамах можна набыць і балеткі, а вось ужо абцасы там, вядома, не знойдзеце.

Мужчынскія туфлі на рынку каштуюць 200-300 тысяч рублёў, а красоўкі каля 250. У краме кошты вышэй прыкладна ўдвая.

Тыя ж туфлі на высокім абцасе з Кітая, як і на рынку, калі прадаюцца ў краме, каштуюць каля 400 тысяч рублёў.

А вось польскі абутак, які многія паважаюць за якасць, набыць можна толькі ў крамах. І за адныя туфлі давядзецца аддаць ад сямісот тысяч да мільёна.

Яшчэ некалькі год таму польскі абутак быў і на рынку райспажыўтаварыства.

– Для польскага абутку вельмі высокі падатак, – тлумачыць яго знікненне прадпрымальніца **Людміла Антрапянская**. – Мы яго проста не выцягнем тут. І жаночы, і мужчынскі каштаваў бы каля мільёна. Як і ў крамах. Але на рынак людзі ходзяць з меншымі грашыма. Дарэчы, дзіцячы абутак падзяргаецца па цане да дарослага. Так што ўявіце магчымыя кошты.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ЗДАРОЎЕ

# Як падабраць абутак правільна?

**МАЛАДЗЕЧНА. Артапед Маладзечанскай дзіцячай бальніцы Аляксандр Запрудскі даў некаторыя парады пры выбары абутку:**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

– У першую чаргу трэба звяртаць увагу на супінатар. Ён павінен быць бачным. Толькі тады ён выконвае функцыю амартызатара.

Абутак лепш насіць скураны. Ён павінен быць з фіксаванай пяткай, вышэй галенастопнага сустава. Тады ножка не хістаецца ў бакі, а добра ўтрымлівае нагу.

## Абцасы толькі дзве гадзіны ў дзень, красоўкі – на трэніроўку

Цяпер юнакі хочуць быць больш спартыўнымі, таму аддаюць перавагу кедам ці красоўкам. Дзяўчаты наадварот – "падрасці" за кошт абцасаў.

Аднак гэтыя віды абутку карысці не прыносяць. Спартыўны абутак трэба насіць толькі на занятку фізкультурай. Ён не прызначаны для штодзённага карыстання. Як вядома, нага ў ім "не дыхае", а таму больш пацее. У выніку можна зарабіць грыбок і мазолі.

Для людзей любога ўзросту аптымальная вышыня абцаса складае адзін-паўтара сантыметра.

У тых жа, хто носіць вялікія абцасы, атрымліваецца перараспарэмкаванне нагрузкі на пальцы – на першы і апошні, а супінатар пры гэтым не ўдзельнічае ў хадзе.

Хадзіць на іх доктар рэкамендуе толькі дзве гадзіны ў дзень. Калі ж гэтымі правіламі грэбаваць, то ў пазнейшым ногі не скажуць "дзякуй".

Вострыя насы таксама не прыносяць ніякай карысці для ног. Гэта проста мода. Калі людзі часта носяць такі абутак, у далейшым можа сфарміравацца х-падобнае скрыўленне пальцаў ног.

## Схільнасць да плоскаступнёвасці ёсць ва ўсіх дзяцей, галоўнае – яе папярэдзіць

З аднаго года да чатырох у дзяцей назіраецца схільнасць да плоскаступнёвасці. Прычына гэтага ў тым, што ножка ў дзіцяці яшчэ не сфарміравалася. Таму лячыць да пяці гадоў захворванне не трэба.

Аляксандр Запрудскі развеяў і яшчэ адзін міф аб тым, што карысна для здароўя хадзіць босым.

Па словах доктара, гэта можна рабіць, але вялікай карысці ад гэтага няма. Для малога дзіцяці лепш быць абутым. Тады будзе правільна фарміравацца нага.

Калі малое яшчэ не ходзіць, трэба паспрабаваць абуць сандалі. Дзіця адчуе падтрымку і хутчэй падымецца на ножкі.

## Абутак павінен быць толькі па памеры

Абутак заўсёды трэба падбіраць па памеры. Лепш не данашваць за старэйшымі брацікамі ці сястрычкамі. Супінатар у такім абутку ўжо паношаны, а таму не выконвае свайго прызначэння.

– За межамі нашай краіны дзіцячы абутак па кошце такі ж самы як і для дарослага чалавека, – падкрэсліў Аляксандр Запрудскі. – Таму на яго не трэба шкадаваць грошай.

Абутку павінна быць столькі, колькі падзей у жыцці. На свята – абцасы, на трэніроўку – красоўкі ці кеды, у паўсядзённым жыцці – утульны абутак з невялікім абцасам.

**Вольга ЮРКЕВІЧ,**
**Галіна СІНІЦА.**

| Курсы валют НБ РБ | 15.08 | 22.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 920,00 | **8 920,00** |
| Еўра | 11 840,00 | **11 950,00** |
| Злоты | 2 818,86 | **2 814,01** |
| Літ | 3 428,20 | **3 459,71** |
| Расійскі рубель | 269,00 | **270,50** |
| Грыўня | 1 099,81 | **1 097,00** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8910/8960 | **8910/8970** |
| Еўра | 11820/11900 | **11920/12020** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.08 | 21.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 116800 | **105800** |
| Сасіскі, 1 кг | 46200 | **45050** |
| Ялавічына, кумпяк, 1 кг | 84000 | **75000** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26300 | **23500** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 24000 | **23800** |
| Селядзец, 1 кг | 28000 | **23400** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 85000 | **89000** |
| Рыс, 0,9 кг | 9900 | **9000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 10100 | **8000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 9000 | **9500** |
| Алей | 15700 | **15900** |
| Маянэз, 200 г | 5200 | **5000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 7800 | **7400** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 30000 | **28000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 9800 | **8900** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 8000 | **7000** |
| Капуста, 1 кг | 4500 | **4800** |
| Морква, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **6000** |
| Лімоны, 1 кг | 20000 | **20000** |
| Апельсіны, 1 кг | 15000 | **14500** |
| Мандарыны, 1 кг | 23000 | **19500** |
| Памідоры, 1 кг | 7500 | **9000** |
| Агуркі, 1 кг | 5000 | **8300** |
| Перац, 1 кг | 8000 | **11500** |
| Вінаград, 1 кг | 17000 | **20000** |
| Бананы, 1 кг | 12500 | **12500** |
| Яблыкі, 1 кг | 8000 | **9000** |
| Грушы, 1 кг | 18000 | **22500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| Масла, 1 кг | 60000 | **60000** |
| Тварог, 1 кг | 35000 | **30000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Мёд, 1 кг | 50000 | **5000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# 70 удараў жонцы

## Сёлета віляйчанін ударыў жонку не менш за 70 разоў рукамі, нагамі і абухом сякеры

**ВІЛЕЙКА. У 2013 годзе на Вілейшчыне відавочная негатыўная тэндэнцыя забойстваў.**

Самі за сябе гавораць лічбы. Год яшчэ не закончыўся, але ўжо зарэгістравана больш забойстваў, чым за апошнія гады.

### Статыстыка забойстваў на Вілейшчыне

| Год | Колькасць забойстваў |
|---|---|
| 2010 | 3 |
| 2011 | 2 |
| 2012 | 0 |
| 2013 | 4 |

Асаблівую занепакоенасць выклікае тое, што сёлета два з чатырох забойстваў здзейснены з асаблівай жорсткасцю.

У першым выпадку муж нанёс жонцы не менш за 70 удараў рукамі, нагамі і абухом сякеры. У другім выпадку пацярпеламу нанеслі 27 колата-рэзаных раненняў.

**Усё сёлетнія забойствы на Вілейшчыне абвінавачаныя здзейснілі, калі былі п'яныя.**

Калі за звычайнае забойства прадугледжаная адказнасць – пазбаўленне свабоды ад 6 да 15 год, то за забойста з асаблівай жорсткасцю пакаранне іншае – ад 8 да 25 год пазбаўлення свабоды, ці пажыццёвае зняволенне, ці смяротная кара.

### Забойствы незваротныя

Менавіта таму неабходна іх папярэджваць.

Варта ставіць на адпаведны ўлік і карэктаваць паводзіны людзей, якія схільныя да супрацьпраўных паводзінаў: сямейных дэбашыраў, тых, хто схільны да боек і хуліганства, пашкоджання чужой маёмасці, злоўжывання алкаголем, стаіць на ўліку ў нарколага ці псіхіятра.

Некаторыя лічаць: паведамляючы ў міліцыю пра буйнага суседа, які б'е жонку, дзяцей ці маці, яны яго "здаюць". Своечасовае, няхай і ананімнае, паведамленне, пасля якога чалавека чакае прафілактычная гутарка, штраф ці арышт на некалькі дзён, можа прадухіліць незваротнае.

Пачуццё беспакаранасці, пакорлівасць блізкіх – гэта дадатковы стымул працягваць гвалт, узмацняць яго, што ў рэшце-рэшт можа закончыцца забойствам.

За мяжой паведамляць аб супрацьпраўных дзеяннях знаёмых лічыцца нормай і вітаецца.

### Дзяржава абараняе жыццё кожнага

Паводле артыкула 24 Канстытуцыі Беларусі, дзяржава абараняе жыццё кожнага ад любых супрацьпраўных замахаў.

Забойства – найцяжэйшая праява злачыннасці. Не толькі з прававога пункту гледжання, але і сацыяльнага.

Найчасцей забіваюць людзей працаздольнага ўзросту. Гэта стварае маральны і матэрыяльны ўрон не толькі для пэўных людзей – сваякоў і блізкіх, а наогул для грамадства. Таму што калі забіваюць аднаго чалавека, другі таксама няўпэўнены ў сваёй абароненасці і бяспецы.

Адказнасць за гэтае злачынства прадугледжаная артыкулам 139 Крымінальнага кодэкса.

**Вадзім ШУКРЫНАЎ, выконваючы абавязкі пракурора Вілейскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Кіроўца КАМАЗа з Салігорска збіў насмерць жыхара Чысці

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя здарылася днём у пятніцу, 16 жніўня.**

Як паведаміў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**, 56-гадовы кіроўца КАМАЗа з Салігорска рушыў па другараднай паласе ў бок Чысці.

На перакрыжаванні Краснае-Чысць і Плябань-Чысць КАМАЗ не саступіў дарогу легкавому аўтамабілю "Фольксваген Шаран", які ехаў па галоўнай дарозе Краснае-Чысць у кірунку Чысці.

"Фольксвагенам" кіраваў 52-гадовым жыхаром Радашкавічаў. У яго машыне быў пасажыр, 61-гадовы жыхар Чысці. Ён загінуў на месцы.

Кіроўца "Фольксвагена" атрымаў пашкоджанні, але не шпіталізаваны.

Кіроўцу КАМАЗа затрымалі. Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ

# Затрыманы мужчына, які падазраецца ў гвалце

**ВІЛЕЙКА. Раніцай 28 ліпеня ў Вілейцы згвалцілі 17-гадовую дзяўчыну.**

Падрабязней пра гэта чытайце ў "РГ" за 2 жніўня, №31.

Як паведамляе намеснік начальніка Вілейскага следчага камітэта **Яўген Мягкоў**, цяпер падазраваны ў гэтым злачынстве затрыманы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

УВАГА! ВЫШУК

# У ліпені знікалі мужчыны

**ВІЛЕЙКА. Вілейскі райаддзел унутраных спраў шукае зніклых.**



**Воўчак Георгі Юльянавіч**, нарадзіўся 10 лютага 1960 года.

Жыве ў вёсцы Жызнава. 2 ліпеня знік.

На выгляд 50-55 год, хударлявы. Рост 180-185 см. Смуглы, валасы сівыя. Правая нага карацейшая за левую, таму кульгае.

Быў апрануты ў кіцель, трыко, зялёную майку, чорныя шлёпанцы. Мае пры сабе скрыначку ад лічыльных палачак, у якой насіў цыгарэты.



**Чаўлытка Анатоль Іванавіч**, 1950 года нараджэння. Ураджэнец Смаргонскага раёна. Жыў у вёсцы Нарач Вілейскага раёна. 20 ліпеня знік. На выгляд 70 год, сярэдняга целаскладу, рост 170 см.

Быў апрануты ў цёмныя пінжак і штаны, гумовыя боты, кепка.

Усіх, хто штосьці ведае пра тое, дзе цяпер зніклыя, просім паведаміць па тэлефонах **8(01771) 3-63-48, 5-41-00, 5-64-62, 8(044) 745-11-98** ці **102**.

**ВАЛОЖЫН. Шукаюць Бунянкова Валянціна Сяргеевіча, які нарадзіўся 27 кастрычніка 1945 года.**



Жыхар Мінска, летам жыве ў вёсцы Ракаў Валожынскага раёна. Інвалід І групы (дыягназ шызафрэнія).

23 ліпеня каля 7.30 гадзін ён выйшаў з дома ў Ракаве. Дагэтуль яго не знайшлі.

На выгляд 65-70 год, рост 160-174, 41-ы памер абутку. Хударлявы, смуглы. Карыя вочы, сівые прамыя валасы. Моцны голас, невыразная мова.

Асаблівыя прыкметы: няма зубоў, чамкае, часта выкарыстоўвае гук "бе".

Усіх, хто ведае штосьці пра тое, дзе цяпер Валянцін Бунянкоў, просім паведаміць у Валожынскі райаддзел міліцыі па тэлефонах: **8(01772) 5-53-02, 5-40-21** (дзяжурны), **8(029) 685-53-02, 507-66-98** ці **102**.

**Крымінальны вышук Вілейскага райаддзела міліцыі, Валожынскі райаддзел Следчага камітэта.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННЕ

## Парэзаў былога мужа сваёй жонкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю вечарам, 18 жніўня, усё пачалося з застолля, а скончылася бойкай.**

– Да сямейнай пары ў госці прыйшла сяброўка, – распавядае старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**. – Яны выпівалі. Потым да іх падышоў былы 34-гадовы муж гаспадыні, яны працягвалі застолле.

Нечакана паміж былым і цяперашнім мужам ўзнікла сварка, падчас якой адзін з мужчын схапіў кухонны нож і тры разы ўдарыў былога мужа ў грудзі.

У пацярпелага параненыя лёгкія, нож закрануў сэрца. Але ён усё ж мае шанец на жыццё.

Ён шпіталізаваны.

Цяперашняга мужа жанчыны затрымалі і завялі на яго крымінальную справу за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Яму 31 год, раней быў судзімы за хуліганства.

Мужчыны паміж сабой знаёмыя не былі, абодва не працавалі.

## Абрабавалі лецішча: частку скрадзенага знайшлі ў кустах

**МЯДЗЕЛ. У перыяд з 7 па 16 жніўня злодзей залез у лецішча ў вёсцы Ляшчынск.**

Для гэтага ён разбіў шыбу. Выкраў шэсць горных ровараў, тэлевізар, мікрахвалевую печку, індукцыйную варачную панель, два магнітафоны, чамадан з дакументамі.

Акрамя двух ровараў і чамадана, скрадзенае знайшлі ў кустах паблізу дома. Астатнюю маёмасць, як і самога злодзея, шукаюць. Пра гэта распавёў старшы следчы Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Максім Валеўка**.

**Аддзел інфармацыі.**

МНС ПАВЕДАМЛЯЕ

## Загарэўся дом з-за нацяжной столі

**АШМЯНЫ.** У сераду вечарам у вёсцы Дакурнішкі Ашмянскага раёна загарэўся дом.

– Пра гэта выратавальнікам паведаміў відавочца пажару, – кажа прэссакратар Гродзенскага ўпраўлення МНС **Наталля Жывалеўская**.

Калі прыехалі пажарныя, дах цалкам быў ахоплены агнём. Сама хата драўляная, але абкладзеная цэглай.

51-гадовы гаспадар дома і яго сям'я не пацярпелі.

Папярэдняя прычына пажару – парушэнне эксплуатацыі газавага абсталявання, яно ўзнікла з-за ўстаноўкі нацяжной столі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## "У цэнтры ўвагі – дзеці"!

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 жніўня бярэ старт маштабная рэспубліканская акцыя Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, прымеркаваная да Дня ведаў.**

Акцыя пройдзе ў тры этапы. Першы этап будзе праходзіць ад 20 да 30 жніўня. У яго межах інспектары МНС наведаюць школьныя кірмашы, гандлёвыя пункты. Дзецям і бацькам раздадуць лістоўкі з правіламі супрацьпажарнай бяспекі, пакажуць, як тушыць пажары.

У першыя дні вучобы інспектары завітаюць ў школы і іншыя дзіцячыя ўстановы. Для дзяцей правядуць гульні, віктарыны, наладзяць прагляд фільмаў.

Мэта – прыцягнуць увагу да таго, як часта дзеці гінуць у пажарах, калі застаюцца без нагляду.

Пра гэта паведаміла інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Марына Ермакова**.

**Наталля ТУР.**

АДУКАЦЫЯ

# ВНУ выратуюць толькі рэформы

**Сёлета 35,8% зарэгістраваных на цэнтралізаваным тэставанні абітурыентаў не пераадолелі парог, які вар'іраваўся ад 10 да 20 балаў, гэта значыць, больш за трэць не набралі мінімальных балаў.**

Навіны аб уступнай кампаніі 2013 больш паходзілі на весткі з поля бою, дзе беларуская сістэма вышэйшай адукацыі прайграе бітву за бітвай. Нізкія балы абітурыентаў на цэнтралізаваным тэставанні, недабор на бюджэт пры празмернасці прэтэндэнтаў на некаторыя спецыяльнасці – гэтыя і іншыя з'явы паказваюць, што беларуская сістэма вышэйшай адукацыі ператвараецца ў механізм па вытворчасці "корачак".

Пры гэтым чыноўнікі любяць казыраць дадзенымі, паводле якіх Беларусь уваходзіць у лік самых адукаваных краін свету. Так, згодна з даследаваннямі Сусветнага банка, яна знаходзіцца на 26-м месцы па ўзроўні адукаванасці. Аднак пытанне ў тым, за кошт чаго краіна апынулася ў рэйтынгу так высока. Месцы ў ім прысвойваюць за паказчыкі, з якімі ў Беларусі ўсё ў парадку: доля асоб з вышэйшай адукацыяй, колькасць якія навучаюцца ў ВНУ і г.д.

З колькаснымі характарыстыкамі ў беларускай вышэйшай адукацыі ніколі не было праблем. Дынаміка постсавецкага перыяду ўражвае. Калі ў 1991 навучальным годзе навучалася 188000 студэнтаў, то ў 2001-м – ужо 281700, а ў 2012-м – 445600.

Такім чынам, хоць за 22 гады насельніцтва Беларусі скарацілася, доля моладзі ў ім паменшылася, а студэнтаў стала больш у два з лішнім разы. Але ці даў такі рост хоць якую-небудзь карысць?

З аднаго боку, вышэйшая адукацыя ў Беларусі стала масавай і агульнадаступнай, з іншага – пачала імкліва абясцэньвацца.

## На задворках рэйтынгу Webometrics

Пацвярджэннем такога стану беларускай вышэйшай школы з'яўляюцца дадзеныя прэстыжнага сусветнага онлайнрэйтынгу універсітэтаў Webometrics. У ім самым лепшым з айчынных з'яўляецца Беларускі дзяржаўны універсітэт, але ён займае толькі ... 639-ю пазіцыю.

Сумна выглядаюць вынікі нядаўняй уступнай кампаніі: узровень падрыхтоўкі абітурыентаў у цэлым нізкі.

Сёлета 35,8% зарэгістраваных на тэставанні абітурыентаў не пераадолелі парог, які вар'іраваўся ад 10 да 20 балаў, гэта значыць, больш за трэць не набралі мінімальных балаў.

## Імітацыя не дапамагае

Аб крызісе айчыннай вышэйшай школы неаднаразова заяўлялі эксперты, якія працуюць у межах ініцыятывы ЕС "Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю". Яны ж распрацавалі прапановы па рэфармаванні сістэмы ВНУ.

Многія эксперты лічаць, што сітуацыю магла б палепшыць рэалізацыя прынцыпаў Балонскага працэсу. Праца дзяржавы ў гэтым кірунку актывізаваліся і некаторыя змены зробленыя, аднак далёка справа не прасунулася.

Нягледзячы на афіцыйныя заявы аб гатоўнасці краіны, у 2012 годзе Беларусь так і не была прынятая ў Балонскую сістэму. Тлумачыцца проста: тых мер, на якія пайшлі беларускія ўлады, было недастаткова. Яны былі накіраваныя не на рэфармаванне самога адукацыйнага працэсу, а на змену паняційнага апарату і тэрміналогіі, каб вонкава сістэма была падобная на Балонскую. Аднак, па сутнасці, гэта нічога не прынесла.

Назапашванне праблем у сістэме вышэйшай адукацыі вядзе да таго, што яна ўжо больш не можа працаваць у існуючых умовах. Без рэальных прадуманых рэформаў далей будзе толькі горш. Ужо цяпер адукацыя не выконвае сваёй галоўнай задачы – падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў.

## ВНУ патрэбная свабода

Для таго, каб сістэма адукацыі пачала развівацца, стала эфектыўнай, у першую чаргу неабходна разумець і ўсведамляць патрабаванні рынку працы – павярнуцца да будучага наймальніка студэнтаў.

Пакуль сістэма далёкая ад гэтага, усё праходзіць па схеме "скончыў універсітэт, пайшоў на працу – вучыся зноўку".

Аднак ўзаемадзеянне ВНУ і працадаўцаў будзе неэфектыўным без прадастаўлення навучальным установам фінансавай і акадэмічнай свабоды.

Сёння Мінадукацыі жорстка рэгламентуе структуру і змест вучэбных планаў, вучэбных праграм і нават паслядоўнасць іх вывучэння. У выніку, калі ВНУ не ўпаўнаважаныя самастойна складаць праграму навучання, вызначаць колькасць бюджэтных і платных месцаў на будучы год, і ўзнікае сітуацыя з недаборам студэнтаў, неэфектыўным працэсам навучання і г.д. У такой сістэме адсутнічае акадэмічная канкурэнцыя, бо няма стымулаў да развіцця.

Безумоўна, важнай стадыяй адукацыйнага працэсу з'яўляецца сярэдняя адукацыя, бо менавіта школа адказная за падрыхтоўку абітурыентаў. Многія эксперты сыходзяцца ў меркаванні, што першым крокам магло б стаць увядзенне ваучарнай сістэмы фінансавання навучальных установаў, гэта значыць – на канкурэнтнай аснове. У эксперыментальным рэжыме такая сістэма была запушчаная ў некаторых раёнах краіны, аднак пакуль не прынесла вынікаў.

**Мікіта БЯЛЯЕЎ**, naviny.by

С 18 июля по 6 сентября

АЛМИ
СЕТЬ МАГАЗИНОВ

# Скоро в школу!

УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136
ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28

только в универсаме — 64900 — скидка 25% — Рулетики куриные 1кг РБ. Состав: цыплята, грибы, лук, морковь, перец черный молотый, приправа к курице, соль.

только в универсаме — 54900 — скидка 25% — Рыба запеченная Аппетитная 1кг РБ. Состав: минтай, лимон, лук, морковь, картофель, майонез, сыр, мука, масло растительное, соль, перец белый молотый, специи.

только в универсаме — 24900 — скидка 25% — Аджика 1кг РБ. Состав: помидоры, чеснок, перец чили, масло растительное, соль, перец черный молотый.

только в универсаме — 22900 — скидка 25% — Кекс Мак 1кг РБ. Состав: мука в/с, яйцо, сахар, молоко сухое, мак пищевой, вода питьевая, маргарин, разрыхлитель, пудра сахарная.

1950 — скидка 20% — Продукт йогуртный Альпенгурт жир.0.1% 100г РФ В ассортименте

3500 — скидка 15% — Мороженое Эскимо 65г РБ Коровка/Моя Аленка

59900 — скидка 20% — Грудинка Деревенская особая Люкс с/к 1кг РБ

69900 — скидка 20% — Карбонад Деликатесный к/в 1кг РБ

27900 — скидка 25% — Салака подкопченная Двинская 1кг РБ

только в универсаме — 23500 — скидка 25% — Скумбрия с/м 1кг РФ

26900 — скидка 15% — Крабовые палочки Бремор классические замороженные 1кг РБ

только в универсаме — 175900 — скидка 15% — Кальмар Королевский солено-сушеный 1кг РФ

6300 — скидка 20% — Крупа гречневая Ядрица 700г РБ

3950 — скидка 25% — Пюре картофельное Биг Ланч б/п с соусом 50г РФ Курица/Говядина

только в универсаме — 9500 — скидка 20% — Кетчуп Махеев 500г РФ Шашлычный/Томатный

15900 — скидка 15% — Смесь масел Оливиа Микс 770мл РБ

9900 — скидка 25% — Шампиньоны резаные Добрада 400г Китай

7900 — скидка 25% — Маслины Трансформадос 300г Испания С косточкой/Без косточки

только в универсаме — 9300 — скидка 20% — Ананасы кусочки с соком Добрада 565г Вьетнам

только в универсаме — 4100 — скидка 20% — Сок Спеленок 200мл Яблоко/Яблоко-груша

13900 — скидка 30% — Сок/Нектар Добрый 2л РФ Яблоко/Апельсин/Мультифрукт

13500 — скидка 20% — Вода минеральная Боржоми 1л Грузия

только в универсаме — 9950 — скидка 30% — Чай Тесс 100г РФ Санрайз/Флирт/Плэжэ

13500 — скидка 30% — Кофе растворимый гранулированный Жокей Фаворит 75г РФ

1450 — скидка 25% — Шоколад Коммунарка 20г РБ Красная шапочка/Любимая Аленка

9950 — скидка 20% — Торт вафельный глазированный Старый Замок 250г РФ Ореховый/Черничный

3500 — скидка 25% — Шоколадный батончик Несквик 43г РФ

2700 — скидка 15% — Пирожное бисквитное Медвежонок Барни с молочной начинкой 30г Украина

6500 — скидка 15% — Крекер Тук с сыром 100г Украина

3100 — скидка 25% — Чипсы Челз 30г РБ В ассортименте

1500 — скидка 25% — АЛМИ сделано для вас! — Арахис АЛМИ жареный с солью 30г РБ

12900 — скидка 25% — Фисташки Козырные жареные соленые 70г РБ

29900 — скидка 20% — Стиральный порошок Мара Автомат 2кг РБ Сочный лимон/Детский

только в универсаме — 5700 — скидка 30% — Чистящее средство Биолан 400г РФ в ассортименте

только в универсаме — 11500 — скидка 25% — Шампунь Тимотей 250мл РФ В ассортименте

7900 — скидка 20% — Бумага туалетная Сипто Колор 4шт РБ Яблоко/Лимон

товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 21 АВГУСТА ПО 3 СЕНТЯБРЯ 2013 ГОДА

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются.
Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале.
При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**

**166**

| Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |

**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце RH.by**

# ВІНШАВАНКА

**З 60-годдзем КЕЛЬПУТ Святлану Мікалаеўну з Маладзечна!**

*Уходят годы безвозвратно,*
*Не все сбываются мечты.*
*Но как нам чувствовать приятно*
*Что есть на свете мама - ты!*
*Пусть здоровье будет крепким,*
*А сердце вечно молодым,*
*Пусть каждый день Твой будет светлым*
*На радость нам и всем родным.*

**Муж, сын, дочкі, зяці, унукі**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- БМВ 518, 2150 у.а. Т. Вэлком (8-029) 1375169.*
- ВАЗ 2105, 2007 г.в., колер сіні, рухавік 1500 куб. см, інжэктар, $3200. Т. (8-044) 7790374.*
- ВАЗ 21074, 2005 г.в., сігналізацыя, ц/з, СД/МР3, + зімовыя шыны. Т. (8-044) 5614748.
- ГАЗ 3307, 1998 г.в.; ГАЗ 5204, 1993 г.в.; сядзельны цягач МАЗ 54323 з паўпрычэпам фургонам; ОДАЗ 39770, 1988 г.в. КУП "Садружнасць". УНП 600102234. Т. (8-01771) 54283, 20921.
- ГАЗ-21 "Волга", 1968 г.в. Т. (8-029) 9218753, (8-033) 6020308.
- ЗІЛ 131, бартавы з гідраманіпулятарам, рухавік дызельны, рабочы стан. Т. (8-029) 7095069.
- МБ-100, 1993 г.в., пасажыр, патрабуе рамонта кузава, 1500 у.а. Т. (8-029) 1848666, (8-029) 1616424.
- Нісан Альмера, 2001 г.в., седан, серабрысты металік, АКПП, эл/пакет, г/у, ц/з, кандыцыянер, літыя дыскі, сігналізацыя, выдатны стан, 8150 у.а. Т. МТС (8-029) 5636241.*
- Опель Вектра, 1993 г.в., газ-бензін, 1700 у.а. Т. МТС 7793051.*
- Рэно Сцэнік, 1998 г.в., газ-бензін, добры стан. Т. (8-025) 9356307.
- Форд Эскорт, 1996 г.в., універсал. Т. (8-029) 5634901.
- Форд Эскорт, усё новае, шкло лабавое, шлангі тармазныя, камплект, замок запальвання ў зборы. Т. (8-029) 2522103.*
- Гольф 1 па запчастках. Т. (8-029) 1337681, (8-029) 5662873, (8-025) 7877317.
- ВАЗ 2106, 1999 г.в., 1,6 бензін, добры стан, 1 гаспадар. Т. (8-029) 6330818.
- ВАЗ 21-03, 1978 г.в., чырвоны, нармальны стан. Т. МТС (8-029) 8529601.
- Форд Фіеста, 1993 г.в., 1,1. Т. (8-029) 9815434.
- ВАЗ-2105, 1984 г.в., 1,3 Б, цана дагаварная. Т. (8-029) 8713625.
- Опель Астра, 1992 г.в., 1,4 Б, белы. Т. (8-029) 6887297.
- Хонда Цывік, 2002 г.в., 1,4 і, хэтчбэк, 3 дзверы, чорны, 7300 у.а. Т. Вэлком 1470167.
- ВАЗ 21093, 1993 г.в., 1,5 газ-бензін. Т. МТС 8707792.*
- Хундай Лантра, 1993 г.в., 1,5 інжэктар. Т. (8-033) 3929157.*
- Пасат В5, 1997 г.в., 1,6 г/б, універсал; г/у; пярэдні эл/п. Т. МТС 5787731, Вэлком 6273387.*
- Шкода Форман, 1994 г.в. на запчасткі, ёсць усё, 1,6 к., Форд Скорпіа, 1990 г.в. на запчасткі, 2,5 о, насос паліўны+фарсункі, 2,5 ТД. Т. МТС (8-029) 5089644, Мікалай.
- Мерседэс Ванэа, 2002 г.в., чорны, 1,7 дызель. Т. МТС (8-029) 7677491.
- ФВ Пасат Б5, універсал, 1999 г.в., 1,8 бензін. Т. МТС 8580127.
- Форд Эскорт, 1995 г.в. (95-2000), 1,8 Д, універсал, 2300 у.а. Т. (8-029) 8774124.
- Форд Эскорт, 1992 г.в., 1.4 мона, праведзены рамонт кузава, чорны, 12000000 руб., Маладзечна. Т. (8-029) 8744869.
- Форд Эскорт, 1997 г.в., 1.8 ТД, бардовы, универсал, 2600 у.а., Маладзечна. Т. (8-033) 3985933.
- Сітраэн Ксантыя, 1998 г.в., 1,9 ТД, цана дагаварная. Т. (8-029) 3588452.
- ФВ Венга, 1996 г.в., 1,9 дызель, чорны, добры стан. Т. (8-029) 2722635.*
- Мазда 323, 2001 г.в., 2,0 ТД, седан, 4999 у.а. Т. (8-044) 7601222.
- Мазда 626, 1993 г.в., 2,0Д, бэжавы, торг. Т. (8-029) 8427224, (8-029) 9337663.*
- Пежо 406, 2001 г.в., 2,0 НДІ, аварыйны стан, 4500 у.а. Т. (8-029) 3068457.
- Ровер 623, 1998 г.в., 2,0 бензін, АКПП, цёмна-зялёны, 4500 у.а. Т. (8-029) 6300229.
- Сітраэн Пікасо, 2000 г.в., 2,0 Д, зялёны, добры стан. Т. (8-029) 5553115.
- Форд Сіера, 1990 г.в., ДОНС, 2,0 бензін, ц/з, эл/п, літыя дыскі, люк, белы, спойлера, Вілейка. Т. (8-033) 6616578.
- Хундай Цібурон, 2001 г.в., 2,0 Б, 4999 у.а. Т. (8-029) 9820207.
- Хундай Элантра, 2001 г.в., 205 тыс.км., 2,0 дызель, 5400 у.а. Т. (8-029) 7065883.
- Пежо 605, 1993 г.в., 2,1 дызель, 2800 у.а. Т. (8-029) 2648845.
- Пежо 605, 1994 г.в., 2,1 ТДІ, 3400 у.а., торг. Т. (8-029) 1550212.
- Матацыкл К-650, 1968 г.в.+запчасткі, 6 Вт абсталяванне, 500 у.а., торг. Т. МТС (8-033) 6791459, Вэлком (8-044) 7688469.
- Дыскі жалезныя R16 да а/м Вольва, 4 шт. Т. (8-029) 6639615.
- Па запчастках: БМВ-525, 1989 г.в., Е34 кузаў, інжэктар; БМВ-518, 1985 г.в.; БМВ-524, 1987 г.в., турбадызель. Т. (8-029) 9962115, (8-029) 7650682.
- Па запчастках: ФВ G-4, 2000 г.в., Аўдзі А-6, 2000 г.в., 2,7 БТ, АКПП, ФВ Т 5, 2004 г.в., 1,9 Тді МКПП, "MB Vito", 2006 г.в., 2,2 СДі, МКПП, "Suzuki Grand Vitara", 2000 г.в., 2,5 Б, МКПП, "Таёта Камры", 2003 г.в., 2,4S, АКПП, "Honda CR-V", 2007 г.в., 2,2ТД, МКПП, поўны прывад, "Гранд Чарокі", 2000 г.в., 4,7 АКПП, Нісан Х Трэйл, 2008 г.в. ІП Яроўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*
- Шыны R16 205/55, Гуд'ер, 4 шт, лета. Т. (8-029) 6639615.

## КУПЛЮ

- А/м да 3500 у.а. Т. (8-033) 3711742.*
- А/м **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС** у любым стане. Т. (8-033) 6924944.*
- **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА! Т. (8-044) 7601222.**
- А/м, варыянты. Т. (8-029) 8126193.*
- А/м, які патрабуе тэрміновага продажу. Т. (8-029) 8126193.*
- Аўто 1988-2008 г.в., можна з дэфектамі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*
- Аўто, іншамарку, не старэйшыя за 1990 г.в., да 5000 у.а. Т. Вэлком (8-044) 4871003.*
- Аўто, любое, з любымі праблемамі. Т. Вэлком (8-044) 4706493.*
- ГАЗ-53 самасвал у добрым стане. Т. (8-029) 7827793.
- Іншамарку ў любым стане. Т. МТС (8-029) 5036715, Вэлком (8-029) 6036715.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр, 4/5 паверх цаглянага дома, плошча 33,8/19,4/6,2. Т. (8-044) 7313073, (8-029) 5699337.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/17,5/8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*
- 2-пакаёвая кватэра ў в.Шылавічы, Вілейскі р-н, 1967 г.б., цэгла, ізаляваныя пакоі, 2 паверх, 42/28/7, усе выгоды, новы водаправод і каналізацыя, хлеў, 11990 у.а., торг. Т. (8-029) 7987794, Наталля.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр. Т. (8-029) 8503638.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт, 5/5, 63,5/39,5, частковы рамонт, 36000 у.а. Т. (8-029) 9789091.*
- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, аг. пл. 60,9 кв.м. Т. (8-029) 5679187.
- 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Гагарына, 2 паверх цаглянага дома 72/47/8, дзве лоджыі, дамафон, тэлефон, вокны ПВХ, новыя міжпакаёвыя дзверы, добры стан, падвал. Т. (8-029) 3349632, (8-029) 5517332, (8-01771) 37987.
- 4-пакаёвая кватэра, 64,4/ 46,6/ 7,4 кв.м, 1/5 с/в раздз., балкон. Т. (8-029) 5663432.
- 4-пакаёвая кватэра, вул.Гагарына, 23, 5-паверх, магчымы абмен на 1-2-пакаёвую кватэру. Т. (8-029) 7658751.*
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*
- Гараж у ГК-30. Т. (8-029) 7108010.*
- Гараж у ГК-32, р-н Фестывальны. Т. (8-029) 7726530.*
- Дача з участкам у Смаргонскім р-не , 12 сотак. Т. (8-029) 5890200, (8-044) 5913337.
- Дача паблізу Віліі. Т. (8-033) 6068147.*
- Дом драўляны ў в.Вараб'і, ст.Будслаў, Мядзелскі р-н, 2000 у.а. Т. (8-029) 8534173.
- Дом у в.Баяры Вілейскага р-на, 30 сотак, побач лес, вадасховішча, 15000 у.а. Т. (8-01771) 76549, (8-029) 9291987.
- Дом у в.Малая Дайноўка Валожынскага р-на, 7000 у.а. Т. (8-01772) 57718, (8-044) 7123873.
- Дом у г.п. Свір, Мядзелскі с/с з мэбляй, зона адпачынку, праз дарогу вялікае возера, 30000 у.а. Т. (8-01797) 42616, (8-029) 8476929.
- Дом недабудаваны ў Маладзечне, 2 паверх, 12 сотак, газ, вада, каналізацыя па вуліцы, 71500 у.а. Т. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.*
- Дом у в. Івонцавічы. Т. (8-033) 3137628.
- Дом у в. Шастакі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 6837306.
- Дом у в.Каранец, нядорага. Т. (8-029) 7991094, (8-01771) 20767.
- Дом у в.Кобузі, Вілейскі р-н, побач лес, вадаём, 7000 у.а., торг. Т. Вэлком (8-044) 7404035.*
- Дом у в.Ракшыцы. Т. (8-01771) 22316.*
- Дом у Вілейцы, цэнтр, вада, газ.Т. (8-029) 5751771.*
- Дом у г.Астравец. Т. (8-029) 5094318, (8-044) 5481203.*
- Дом, Вілейка, 2 узроўні, 150 кв.м, раён Макаўе, магчымы абмен на 3-пак. кватэру з даплатай. Т. (8-01771) 35457.
- Участак 10 сотак у в.Верадова, ёсць домік, хлеў, прыбіральня. Звяртацца: Маладзечна, 3-ці Камунальны праезд, дом 11. Т. 8725349, 732616.*

## КУПЛЮ

- 1-пакаёвую кватэру. Т. (8-044) 7747496.
- 2-3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Без пасярэднікаў. Аплата наяўнымі. Т. (8-044) 7470922, (8-033) 6322592.
- Дом, хутар каля Маладзечна, Вілейкі, Смаргоні, Валожына, Мядзела, можна трухлявы, можна закінуты ўчастак. Т. (8-029) 5766926.*

## МЯНЯЮ

- 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры 51/32/6,5 кв.м, 5/5к, пакоі асобныя, лоджыя на 1-пакаёвую кватэру (2-3 паверх) з вашай даплатай. Т. 772980.*

## ЗДАМ

- Кватэру на суткі, гадзіны ў Маладзечне, цэнтр. Хуткае засяленне, канфідэнцыйна. Камфорт, утульнасць, акуратна. Камандзіраваным справаздачныя дакументы. ІП Гардовіч А.А. УНП 691506689. Т. Лайф (8-025) 7891016.*



- Пакой у 3-пакаёвай кватэры (пражывае адзін чалавек), цэнтр, ёсць інтэрнэт. Т. 753788, (8-029) 2521348.
- **У АРЭНДУ ВЫТВОРЧЫЯ ПАМЯШКАННІ: У МАЛАДЗЕЧНЕ, ВУЛ.РАБОЧАЯ, 1-В, 460 КВ.М, 380 В, ВЫШЫНЯ 5, 10 М, КРАН-ШТАБЛЁР, КРАН-БЭЛЬКА; У САСНОВЫМ БАРЫ, 270 КВ.М, ВЫШЫНЯ 4 М, 380 В З СІСТЭМАЙ "ЦЫКЛОН" ДЛЯ ДРЭВААПРАЦОЎКІ; У ВІЛЕЙЦЫ, ВУЛ.МІРНАЯ, 26, 295 КВ.М, З АСОБНАЙ ТЭРЫТОРЫЯЙ (ВАДА, КАНАЛІЗАЦЫЯ, ГАЗ), ВЫКАРЫСТАННЕ ПАД МАГАЗІН, СКЛАД, АЎТАМАЙСТЭРНЮ. Т. (8-029) 1969033, (8-0176) 753513. Сяргей.***



# Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

ВАНДРОЎКІ

# Адпачынак у Крыме: танна і якасна?

**Часта кажуць, што адпачынак у Крыме самы танны. Ці праўда гэта? Ці значыць гэта, што за невялікія грошы вам прапануюць адпачыць якасна? Давайце лічыць разам!**

Рыхтавалася я сёлета да адпачынку паводле прынцыпу жарту з КВЗ: не назбіраў грошы, дык хоць у Крым. Набыўшы квіткі ў плацкартны вагон (абавязкова недзе за 45 дзён да паездкі – інакш іх проста ўжо не будзе ў продажу), я пачала чакаць адпачынку.

Квіткі ў плацкартны вагон на цягнік да Сімферопаля абыйдуцца прыкладна ў **адзін мільён рублёў** у два бакі з чалавека.




Фота Наталлі ТУР.

Канатная дарога.

## Думкі ў дарозе

25 гадзін на цягніку, і вось за вокнамі краявіды Крыма: сланечнікавыя палі, горы, мора... Дзякуючы таму, што вольнага часу ў цягніку шмат, можна з курортным месцам вызначыцца тут. Мой выбар у гэты раз быў на карысць горада Алушта, што на паўднёвым беразе Крыма. Як толькі мы пакінулі цягнік, да нас, як мухі на мёд, зляцеліся таксісты з усяго паўвострава. Адсюль можна даехаць ва ўсе гарады і мястэчкі старога добрага Крыма.

Таксі да Алушты вам станецца ў суму **прыкладна 300 тысяч рублёў**, але тут – як дамовішся з таксістам.

Лішніх грошай у нас не было, таму, адмовіўшыся ад хуткасці і камфорту, рушылі на аўтавакзал. Дарэчы, ён тут зусім побач.

Квіток на аўтобус каштуе **20 тысяч рублёў**. Кошты, вядома, ва ўкраінскіх грыўнях, але курс можна лічыць як 1:1, таму да кошту ў грыўнях я проста дадаю тры нулі.

Калі зусім шкада грошай, можна паехаць да месца на тралейбусе. Кошт **9 тысяч рублёў**. Але і часу гэта займае больш. Прынамсі, дарога да Алушты зойме гадзіны дзве.

## Я ў бабулі жыву

Варыянтаў жылля ў Крыме не проста шмат, а занадта шмат. Жыллё прапануюць усе: і бабулі-гаспадыні, і прадпрымальныя рыэлтары, і таксісты, і шыльды розных гатэляў і пансіянатаў на кожным кроку... Выбірай на любы густ!

Хочаш дом, хочаш пакой, кватэру. Каля мора, у цэнтры горада... Кошты ад **50 тысяч рублёў** на суткі з чалавека за пакой. За асобную кватэру гэту суму адразу трэба памножыць на тры.

Зразумела, што чым бліжэй да мора і да камфорту, тым даражэй. Дарэчы, пансіянаты, пры наяўнасці вольных месцаў, цешаць прымальнымі коштамі.

## Абед па раскладзе

Калі ваш выбар, як і мой, – гэта адпачынак без харчавання, то вам давядзецца шукаць варыянты дзе смачна і, што тут хаваць, танна паесці.

Крымскія сталовыя, якіх шмат на кожнай вуліцы, комплексны абед прапануюць за **30-40 тысяч**. Прычым першыя стравы (супы, салянкі) зусім недарагія (7-10 тысяч).

Калі бюджэт дазваляе, можна харчавацца ў кавярнях, барах. Там абед абыдзецца ненашмат даражэй, але трэба мецъ на ўвазе, што амаль ва ўсіх такіх установах вам у рахунак уключаць 10 % ад сумы замовы.

І яшчэ адно. Тое, што ў меню напісана: "Падзяка афіцыянту вітаецца", можа значыць, што рэшту вы так і не дачакаецеся. Праверана на ўласным досведзе.

## Не хлебам адзіным...

Галоўная перавага адпачынку ў Крыме, на мой погляд, гэта багатая гісторыя гэтага паўвострава і безліч маршрутаў для экскурсій.

Экскурсіі прапануюць шматлікія турыстычныя фірмы. Пад'ём у горы ці марскія вандроўкі на цеплаходзе, палацы, у якіх да сённяшняга дня адчуваецца энергетыка іх уладальнікаў, ці прыродныя дзівы: пячоры ды вадаспады.

На аўтобусе ці джыпах, на конях ці на роварах. Выбірайце на свой густ. Экскурсія абыдзецца вам у суму **ад 200 да 350 тысячаў рублёў**. Але гэта таго каштуе. Бахчысарай, Балаклава, Севастопаль, Херсанэс, Джур-Джур, Гурзуф...Ад адных назваў сэрца замірае ў прадчуванні!

## "Прывязі мне магніцік!"

Першае, што чуеш, калі паведамляеш сваім знаёмым, што едзеш адпачываць, гэта словы: "Прывязі мне што-небудзь".

Самыя папулярныя гасцінцы – магніты на лядоўню і бірулькі для ключоў. Падобны гасцінец абыдзецца вам **ад 5 да 25 тысяч рублёў.**

Калі вашы сябры больш патрабавальныя, раю звярнуць увагу на касметыку (гліну, солі, мыла ручной работы і г.д.), варэнне з кізілу, пялёсткаў руж, горны мёд і, вядома, спіртныя напоі (знакамітыя крымскі каньяк ды віно).

Увага: па нормах можна перавозіць не больш за тры літры спіртных напояў на чалавека.

## Лыжка дзёгцю

Магчыма, вы запытаецеся: а дзе мора? Чаму ва ўсім артыкуле ні слова пра пляжы і мора? Таму што для мяне тое, дзеля чаго мы цэлы год збіраем грошы і едзем за тысячы кіламетраў, і апынулася самым непрыемным ва ўсёй гісторыі.

Не, з морам усё ў парадку: і цёплае, і чыстае...

**А справа ў тым, што амаль усе пляжы ў Крыме перададзены ў прыватную ўласнасць.**

І каб дзянёк папесціцца на такім пляжы, вам давядзецца аддаць **30 тысяч рублёў**.

Калі ж выбіраць пляж агульнага доступу, то проста слёзы падступаюць! 1-2 пляжы на 100 000 насельніцтва! Прыйшоў на гадзіну пазней – і месца пад сонцам можна проста не знайсці!

Якое выйсце з гэтага становішча? Для мяне толькі адно: вядома, адпачываць у Крыме варта, але трэба выбіраць для гэтага месцы, дзе ў кошт пуцёўкі абавязкова ўключаны ўваход на пляж!

Падбіваючы касу, магу сказаць: два тыдні крымскага сонца і мора абышліся мне ў суму 4 500 тыс. беларускіх рублёў! Прычым, 50 даляраў яшчэ засталося. Пачатак адпачынку - 2014 пакладзены!



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08@mail.ru

ІМПРЭЗЫ

# "Вечарынка ў Паўлінкі"

## Праз сто год зноў у Радашкавічах

**МАЛАДЗЕЧНА. Свята, прысвечанае 100-годдзю пастаноўкі п'есы "Паўлінка" ў Радашкавічах, адбылося 15 жніўня.**

– З апошніх імпрэзаў, на якіх я быў, гэтая найлепшая! – ацаніў вечарыну краязнаўца **Міхась Казлоўскі**. – Усё было жыва, натуральна, да месца і з навізной. Мне рэдка якія мерапрыемствы па-сапраўднаму падабаюцца, а гэтае вельмі спадабалася.

Спачатку госці сабраліся ля помніка Янку Купалу каля Радашкавіцкага цэнтра культуры і адпачынку. Да прысутных звярнуліся дырэктар дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы **Алена Ляшковіч**, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Рамановіч**, пісьменнік **Анатоль Бутэвіч**, краязнаўца Міхась Казлоўскі.

У зале цэнтра культуры размясцілі стэнды, на якіх прадэманстравалі фотаздымкі песняра, газеты "Наша ніва", рукапісы. Тут выступілі паэт **Віктар Шніп** і літаратуразнаўца **Пятро Васючэнка**.

Потым гасцей чакалі народныя песні і танцы.

### Пяць фактаў пра "Паўлінку"

Міхась Казлоўскі ў інтэрв'ю "РГ" паведаміў пра некаторыя факты, звязаныя з першай пастаноўкай "Паўлінкі" ў Радашкавічах.

1. У Мінску паказ забаранілі. Да таго, каб ён адбыўся ў Радашкавічах, прыклаў намаганні **Андрэй Снітка**, вядомы гісторык, мясцовы пан, сваяк **Аляксандра Уласава** (першага рэдактара "Нашай Нівы").

2. У Радашкавічах (менавіта так у той час называлі мястэчка) 15 жніўня 1913 года галоўную ролю выканала **Аляксандра Ліпніцкая**. На прэм'еры у Вільні 27 студзеня таго ж года Паўлінку выконвала **Соф'я Маркевіч**, а ў Пецярбургу 9 лютага 1913 – **Паўліна Мядзёлка**.



Фота Ягора ГАРАЯ.

Як госці вечарынкі танчылі пад спевы музыкаў, глядзіце на сайце rh.by.

3. Прысутнічалі ўсе прататыпы галоўных герояў. Але яны перад праглядам добра выпілі, таму ўспрымалі спектакль лагодна.

4. Сярод прысутных былі **Янка Купала**, **Ядвігін Ш.**, **Аркадзь Смоліч**, **Фларыян Ждановіч** (выконваў ролю Якіма Сарокі), **Тодар Куніцкі**, яго сястра **Ганна Куніцкая** (пазней выконвала ролю Паўлінкі ў Радашкавіцкай беларускай гімназіі імя Францыска Скарыны), **Адам Більдзюкевіч**, **Вера Снітка** (першая жонка **Браніслава Тарашкевіча**).

5. "Паўлінка" задумвалася як праічны твор. Аднак пазней Янка Купала вырашыў зрабіць п'есу. Верагодна, таму, што беларускі тэатр пачаў развівацца, таму адчуваўся востры недахоп у нацыянальным рэпертуары.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

МІНУЛАЕ

# Як улетку 1914 года "Паўлінку" ставілі па Астравеччыне

**АСТРАВЕЦ. У час працы настаўнікам Клюшчанскай школы з верасня 1952 па чэрвень 1953 года быў на кватэры ў Хадорскіх у вёсцы Казаноўшчына Свірскага раёна (цяпер Астравецкі).**

Гаспадары – Эмілія Францаўна і Франц Іосіфавіч расказвалі мне пра спектакль, які ладзілі госці з Вільні і мясцовая моладзь. Яна ўспамінала, што прыязджалі са спектаклем "перад самюсенькай вайной".

Вядома, што першая сусветная вайна пачалася 1-га жніўня 1914 года. Па тых сведчаннях, што спектакль ставілі ў разгар сенакосу, што гасцей частавалі пазёмкамі з чарніцамі, залітымі малаком, што мясцовыя дзяўчаты і госці хадзілі кідаць вянкі ў рэчку Баранка, можна меркаваць, што ставілі спектакль на Купалле, ці на Яна, як гавораць на Клюшчаншчыне.

Вестка, што ў Клюшчанах будзе паказ, лунала яшчэ з вясны. Моладзь і дарослыя рыхтаваліся: як і дзе сустракаць, чым частаваць гасцей. Нарэшце, настаў гэты дзень. Сустракаць артыстаў паехалі да чыгункі ў Гелядню на лепшых конях, запрэжаных у брычкі і карафажкі. У грывы коням уплялі каляровыя стужкі, на шыі павесілі шаргуны, даматканымі перабіранымі посцілкамі заслалі сядзенні.

Людзі сабраліся на пляцы перад касцёлам. Ладзіць спектакль дазволіў у сваім гумне знакаміты ў наваколлі садавод **Смаленскі**, бо клуба ці вялікай хаты ў мястэчку не было, а на дварэ стаяла спёка. Гумно размяшчалася амаль у цэнтры мястэчка, пры ім было прасторнае гумнішча. У канцы тока зрабілі з дошак сцэну для выступаючых, расставілі лаўкі.

У паказе прымала ўдзел мясцовая моладзь: браты **Стаповічы**, **Эля Мядзвецкая** ды іншыя, а таксама віленская моладзь. Сярод іх быў **Янка Купала** і **Паўліна Мядзёлка**. Ставілі ўрывак з камедыі "Паўлінка", дэкламавалі вершы, спявалі беларускія песні.

Абедалі ў Казаноўшчыне (вёска ў паўкіламетра ад Клюшчан). Рыхтавала пачастунак Эмілія Хадорская, якая мела ў наваколлі рэпутацыю выдатнай кухаркі. "Чысты" канец хаты Хадорскіх даволі прасторны, толькі не хапала мэблі, і Франц Іосіфавіч прынёс ад суседзяў некалькі сталоў і зэдлікаў, каб зручна размясціць "пожондную кампанію".

Пазней іх сын **Казюк Хадорскі** пры нагодзе любіў падкрэсліць:

– Я добра памятаю **Альбіна** і **Кастуся Стаповічаў**, ды і саміх Янку Купалу і Паўліну Мядзёлку. Яны ў нас у хаце былі. Частаваліся.

У другой палове дня ладзілі прадстаўленне ў роднай вёсцы Стаповічаў Баранях. Аб гэтым мне расказваў жыхар вёскі Барані Веська.

На палянцы ў канцы вёскі (сасновы бор падступаў тады да самых агародаў) зрабілі ўзвышэнне для артыстаў, для гэтага выкарысталі дзверы ад гумнаў, навокал абставілі бярозкамі. Падлеткі знеслі з усёй вёскі зэдлікі.

Перад пачаткам канцэрта выступіў Альбін Стаповіч, які прадставіў аднавяскоўцам гасцей. Усё дзейства вялося па-беларуску і вельмі спадабалася гледачам.

### Вячэра на палянцы

Вялікай хаты, каб умясціць усіх, не было, а вячэраць вырашылі ўсе разам: госці і вяскоўцы, то тут жа на палянцы зрабілі доўгі стол з дошак. На складанку баранцы прынеслі з хаты ўсё самае лепшае, хто што меў: сыры, масла, булкі, кілбасы, паляндвіцы, салёныя баравікі, яечню, ягады, залітыя малаком, мужчыны зварылі баранскую юшку са свежай рыбы.

Стаяла на стале самагонка, медавуха, раўгеня, квас на журавінах. Мядзёлцы былі вельмі даспадобы залітыя малаком чарніцы з пазёмкамі, за што яна падзякавала гаспадыням.

За вячэрай баранская моладзь паказала і сваё майстэрства. Яна больш месяца рыхтавалася да сустрэчы. Спявалі розныя беларускія песні.

### Вечарынка

Пасля вячэры тут жа на палянцы пачаліся танцы, якія доўжыліся аж да раніцы. Гралі мясцовыя музыканты на гармоніку, цымбалах, бубне і дзвюх скрыпках. Адным са скрыпачоў быў мой бацька Пётр Іванавіч, тады 14-гадовы юнак, навучэнец Свянцянскай гімназіі. Граў няўпэўнена, бо толькі яшчэ вучыўся, дык мясцовы "дырыжор" прызначыў яго толькі "падцінаць", гэта значыць у польцы рахцях-цях на тонкіх струнах рэзка агучваць апошнія акорды.

Гарманіст не толькі іграў, але па ходу складаў прыпеўкі і тут жа іх выконваў пад такт танцаў. Полька рах-цях-цях была вельмі тэмпераментная, заахвочвала да танцаў усіх. І калі Іван Дамінікавіч запрасіў на танец Паўліну Вінцэнтаўну, і яны сталі вёртка, з прытопам, скакаць-танцаваць, музыкант заспяваў:

*Янка ў танец схапіў Польцю-*
*Яна ж крэхча ох і ах,*
*А ўсё роўна месіць польку,*
*Нашу польку рах-цях-цях.*

Гэты дасціп так рассмяшыў Паўліну Мядзёлку, што яны не змаглі станцаваць польку да канца і з Янкам Купалам селі ля музыкаў. Калі музыка закончылася, Мядзёлка таксама выдала экспромт (можа, тэкст ёй Купала пашаптаў):

*Доўга-доўга помніць будзем,*
*Нават сніцца будзе ў снах,*
*Як ў Баранях на паляне*
*Танцавалі рах-цях-цях.*

Скрыпка, на якой бацька падыграваў на вечарынцы ў Баранях, у мяне захавалася.

### Заключэнне

Калі запісваў гэтыя ўспаміны, закралася думка: а ці было гэта, можа проста прыгожая легенда-выдумка? Няўжо маглі такія знакамітасці, як Янка Купала, Паўліна Мядзёлка, трапіць у такую глухамань? Пакорпаўся ў адпаведнай літаратуры і прыйшоў да высновы: маглі.

Янка Купала ў гэты час працаваў у Вільні адказным рэдактарам газеты "Наша Ніва". Паўліна Мядзёлка, з якой Янка Купала пазнаёміўся ў час яе побыту ў Вільні ў жаночай гімназіі (1909-1912), таксама была ў Вільні, адбывала курсавую практыку, а мясцовая моладзь, якая вучылася, была на вакацыях.

**Іван ДРАЎНІЦКІ,**
**вёска Камарова**
**Мядзельскага раёна.**

ПАМЯЦЬ

# Пленэр мастакоў па месцах Першай сусветнай

**Грамадская арганізацыя "Беларускі зялёны крыж" ладзіць міжнародны культурна-асветніцкі праект "Пераклічка стагоддзяў: Першая Сусветная вайна і свет сёння".**

Прысвячаецца ён 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай.

– Гэта другая частка праекта "Пераклічка стагоддзяў". Першы праходзіў у 2012 годзе і прысвячаўся падзеям вайны 1812 года, – расказала каардынатар **Наталля Святкіна**.

Уключае праект міжнародныя летнія творчыя майстэрні і грамадска-навуковыя чытанні, конкурс эсэ, серыі перасоўных выстаў.

Ад 29 ліпеня да 15 жніўня праходзіў пленэр мастакоў. Удзельнічалі студэнты і выкладчыкі ўстаноў мастацкага профілю з Беларусі, Расіі, Украіны. Усяго – 37 чалавек.

Чатыры дні мастакі правялі ў нашым рэгіёне. Наведалі Вілейку, Смаргонь і мясцовыя музеі, Забродадзе, Баруны, Солы, Крэва, Залессе, Гальшаны, Навасаск, узбярэжжа возера Мядзел і іншыя мясціны, звязаныя з гісторыяй Першай сусветнай вайны. Там жа працавалі над эскізамі карцін.

– Удзельнікі пленэру наведалі рускія і нямецкія могілкі, нешматлікія, на жаль, помнікі героям Першай Сусветнай вайны, – расказвае Наталля Святкіна. – Агледзелі руіны замка і храма, якія былі практычна знішчаны гэтай вайной, нямецкія доты і рускія акопы, змаглі зірнуць на дарогу, што падзяляла дзве арміі і з боку рускіх пазіцый, і з боку нямецкіх.

Пра ўражанні ад пленэру запытаў у выкладчыка Тульскага каледжа мастацтваў **Міхаіла Блейхера**.

– Другі раз з гэтай арганізацыяй прыязджаю ў Беларусь. Мне тут падабаецца, адчуваю сябе як у сваёй сям'і. Гэтак бывае, калі прыязджаеш да далейшых сваякоў (далейшых – у сэнсе адлегласці) і адчуваеш сябе вельмі ўтульна.

**– Якія мясціны найбольш уразілі?**

– Не хацеў бы вылучаць, бо многія маюць трагічную гісторыю. Зараз прыехалі з Крэва – вельмі прыгожа. Уразіла Крывая Горка – там спалуча.цца незвычайная прыгажосць месца і горыч трагедыі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**
**Фота глядзіце на сайце rh.by.**

# Вучыцца даглядаць за зубамі ніколі не позна!



Фота забяспечана Вольгай УНУЧАК.

Стаматолаг Вольга Ўнучак (справа) упэўненая, што калі і доктар, і пацыент вераць у лячэнне – яно абавязкова спрацуе.

**МАЛАДЗЕЧНА. Шырокую ўсмешку мы ўспрымаем як абавязковы атрыбут шчаслівага чалавека. Ніводны з нас не адмовіцца быць уладальнікам белых здаровых зубоў.**

Як захаваць свае зубы здаровымі на доўгія гады? І як правільна даглядаць за імі? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да доктара-стаматолага з Маладзечна **Вольгі Унучак.**

### Дзіця павінна разумець, што стаматолаг – сябра сям'і

**– Калі ўпершыню трэба весці дзіця да стаматолага?**

– Да года візіт да стаматолага абавязковы. Ідэальна так: прарэзаўся першы зуб, купілі сяэбраную лыжачку, стукнулі па зубе. Мама з татам на пазітыве: у нас першы зуб! Мы прыгожа апранаемся і ідзем да стаматолага. Доктар агледзеў, дзіцяці падарылі сюрпрыз – першая сустрэча атрымалася. І з'яўляецца правільная ўстаноўка, што стаматолаг – гэта сябар сям'і.

Для кожнага ўзросту ёсць пэўныя шчоткі і пасты. Шчоткі адпавядаюць узросту: ад нуля да трох год з аднаго боку шчацінкі, з другога шырокая ручка, якую можна грызці. Ад трох да пяці шчотка мае прыгожы малюнак, у ручцы пацеркі. Тады дзіцяці цікава чысціць зубы.

Пасту таксама трэба падбіраць па ўзросце, бо мяняецца мінеральны склад зубоў.

Два разы на год да стаматолага – абавязкова! Жавальныя зубы маюць натуральныя выгібы, фісуркі. Ёсць працэдура герметызацыі фісурак: наносім спецыяльны гель, падсвечваем – усё, шчылінка закрытая. Гэта прафілактыка на ўсе 100%.

**– Як навучыць дзіця чысціць зубы?**

– Найлепш дзеці вучацца ў групе. Выдатна, калі б ўсе пасля сняданка ў садку ішлі ў ванны пакой, дзе стаяць прыгожыя рознакаляровыя стаканчыкі са шчоткамі і пастамі, і дзеці замацоўваюць, што гэта неабходна. Так робіць мама, тата, дзеці ў садку – усе даглядаюць зубы, значыць, гэта неабходна.

**– Як вы лечыце зубы малым дзецям?**

– Залячыць канал ці выканаць іншую працаёмкую задачу няпроста. Выседзець 20 хвілін дзіцяці цяжка. Некаторым я раблю складаны зуб у тры этапы па дзесяць хвілін. Важна, каб паход да доктара не быў стрэсам для дзіцяці.

У Мінску ёсць клініка, у якой можна залячыць зубкі пад агульным наркозам. Так робіць, калі трэба залячыць адразу чатыры-шэсць зубоў.

**– Дзецям часта ставяць пласцінкі і брэкеты. А ці можна выправіць прыкус у дарослым узросце?**

– Прыкус – гэта суадносіны верхняй сківіцы да ніжняй. У яго фарміраванні ролю граюць мышцы твару, шыі, спіны. Калі мышцы парушаныя ў выніку скалёза, няправільнай асанкі, то праблемы будуць і з прыкусам. У дарослага чалавека ўсе мышцы ўжо сфарміраваныя. Можна рухаць зубы як заўгодна, але карані праблемы мы ўсё роўна не зменім. Можа быць так, што пасля выпраўлення прыкуса ўсё вернецца назад праз пару гадоў.

Таму дарослы чалавек можа выправіць адзіндва зубы. Напрыклад, пасля траўмы. Але выправіць сам прыкус і замацаваць эфект вельмі складана.

### "Многіх дарослых трэба вучыць даглядаць за зубамі"

**– Што трэба рабіць штодзень, каб захаваць зубы здаровымі?**

– Неабходна карыстацца шчоткай, зубной пастай і апаласквальнікам. Многія пытаюцца: чысціць трэба да сняданка ці пасля?

Чым часцей, тым лепш. Мне камфортна пачысціць зубы, як толькі прачнуся, пасля сняданку і перад сном. Пасля таго, як я днём паем, я карыстаюся апаласквальнікам – на працягу хвіліны.

**– Ці ўсім рэкамендуецца зубная нітка?**

– Калі пасля чысткі зубоў ты адчуваеш, што штосьці засталося, вядома, трэба карыстацца. Але лепш пагаварыць са стаматолагам.

Доктар яшчэ і навучыць правільна карыстацца флосам (зубной ніткай). Галоўнае – не траўмаваць зуб, заходзіць у шчылінку акуратна і гэтак жа выйсці.

**– На што звяртаць увагу пры выбары зубной пасты?**

– Набывайце ў аптэках пасты прэміум-класа. У іх не павінна быць аддушак. Паста павінна мець нізкую абразіўнасць, ці шаршавасць.

Абразіўнасць мае абрэвіятуру RDA, яна пазначана на ўпакоўцы. Калі паказчык да 70 – гэта норма. Болей – ужо надта высокі. Гэта будзе тое ж самае, што ўзяць каляную шчотку для мыцця патэльні і церці ёй багемскае шкло.

**– Калі зубы хворыя, ці будзе гэта адбівацца на ўсім арганізме?**

– Так. Запалёны зуб – крыніца хранічнай інфекцыі. Ад здароўя рота залежыць здароўе органаў страўнікава-кішачнага тракту.

Да таго ж, калі ў цябе вялізная дзірку, наўрад ці ты будзеш усім шчыра ўсміхацца і свяціцца радасцю. Гэта таксама збівае настрой.

**– Якое адбельванне рэкамендуеце вы?**

– Я раю натуральнае. Мне больш імпануе працэдура кальцынацыі. Перад тым, як адбельваць, зубы трэба насыціць кальцыем. Доктар рыхтуе індывідуальную капу, у якую кладзем кальцый. За месяц зубы настолькі бялеюць, што некаторыя кліенты кажуць, што іншыя прэпараты не трэба.

### "Калі вы добра чысціце зубы – можаце хоць аб'ядацца булкамі"

**– Ці праўда, што электрычныя зубныя шчоткі больш эфектыўныя, чым звычайныя?**

– І электрычная, і звычайная шчотка эфектыўныя, калі імі правільна карыстацца. Тут пытанне больш не ў эфектыўнасці, а ў зручнасці. Некаму зручна чысціць самому, каб усё адчуваць. Нехта больш любіць аўтаматыку.

Калі ў вас з'явілася электрычная – цудоўна! Але яна мае свае асаблівасці. Нельга паставіць шчотку да аднаго зуба і чакаць, пакуль ён натрэцца да бляску.

Лепей за ўсё прыйсці з канкрэтнай шчоткай да стаматолага і папрасіць, каб ён канкрэтна вас навучыў ёй карыстацца. Яго інструктаж будзе індывідуальны: ведаючы вашы зубы, доктар скажа, якім зубам трэба больш увагі, якім наадварот.

**– Чаму некаторыя дактары раяць піць газаваныя напоі праз саломінку?**

– Бо хімічныя фарбавальнікі і араматызатары могуць быць шкоднымі для эмалі зубоў. Як і для многіх органаў арганізма. Мы можам выпіць колу і адразу прапаласкаць рот вадой. А можам з'есці булку з сокам і пайсці на вуліцу. У такім выпадку шкода ад булкі будзе большай.

Вядома, усе мы чулі, што калі апусціць зуб у колу, то праз нейкі час ён стане крохкім, як шкарлупіна. Але асабіста я такія даследаванні не праводзіла.

**– Якія прадукты найбольш шкодныя і найбольш карысныя для зубоў?**

– Часцей за іншыя карыес выклікаюць мучныя вырабы і слодычы. Яны лёгка чапляюцца за няроўнасці зубоў.

Вакол іх хутка збіраюцца мікраарганізмы, задача якіх – перапрацаваць "смецце". Але прадукт іх жыццядзейнасці – кіслата, якая дрэнна ўздзейнічае на эмаль. Калі гэтых кіслот выдзяляецца зашмат, на зубе з'яўляецца бляшка. Таму той, хто своечасова і правільна чысціць зубы, можа хоць аб'ядацца булкамі.

Карыснае для зубоў мяса, багатае на бялкі. Таксама рыба, яблыкі, ягады, кісламалочныя прадукты. Але ўсё роўна харчаванне павінна быць збалансаваным: калі з ранку да ночы есці тварог, то зубы ад гэтага не стануць лепшыя.

**– А чаму самая галівудская ўсмешка Беларусі – ў спевака Аляксандра Саладухі?**

– А што такое ўсмешка? Гэта сімвал шчасця. Мы запамінаем чалавека па ўсмешцы, а не па адзенні. Магчыма, у дзяцінстве ў яго не было добрых зубоў.

Ён працаваў, працаваў, і выпрацаваў зрабіць сабе ўсмешку. Верагодна, у яго цудоўнае жыццё, жонка, раніцні кактэйлі, прабежка. І ён проста хоча паказаць, што жыццё чароўнае.

Магчыма, і Саладуха сваёй усмешкай нясе пэўную ідэю: хоча, каб усе беларусы ўсміхаліся.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Якія тыповыя памылкі робяць беларусы ў доглядзе за зубамі

**1. Карыстаюцца калянымі зубнымі шчоткамі**

Да 21 года ідзе актыўная мінералізацыя зубоў. Эмаль фарміруецца, яе лёгка пашкодзіць, калі церці жорскім шчаціннем. Таму да 21 года лепей карыстацца мяккімі зубнымі шчоткамі.

**2. Набываюць адну пасту на ўсю сям'ю**

Калі ў сям'і ёсць малыя дзеці, бабуля з пратэзамі, тата з высокай адчувальнасцю зубоў і мама з хворымі дзёснамі, то кожны мусіць мець сваю пасту. Ёсць агульнапрафілактычныя пасты з кальцыем, фторам, а ёсць лячэбныя, якімі карыстаюцца па рэкамендацыі доктара вызначаны тэрмін.

**3. Да стаматолага ідуць толькі калі баліць**

На прафілактычны агляд да стаматолага трэба хадзіць мінімум раз на год.

**4. Не спяшаюцца залечваць карыес у малочных зубах**

Ад нараджэння чалавека ўжо ёсць 32 зачаткі пастаянных зубоў і 20 малочных. Спачатку выходзіць малочны зуб, потым яго корань рассмоктваецца і ўжо відаць галоўка пастаяннага. Калі будзе хварэць малочны зуб, праблемы перакінуцца і на пастаянны.

**5. Адцягваюць лячэнне зубоў да апошняга**

Ісці да доктара трэба адразу, як вас пачало нешта турбаваць. І пачынаць лячэнне таксама адразу – знаходзіць на гэта і час, і сродкі. Адна дзірка за некалькі месяцаў можа стаць прычынай для вырывання зуба. Тады можа змясціцца зубны рад, трэба будзе ставіць пратэз.

ФУТБОЛ

# "РГ" узнагародзіла за лепшыя крычалкі

## Пан Шыманскі атрымаў падарунак ад рэдакцыі і падзяліўся думкамі аб маладзечанскім футболе

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні рэдакцыя падвяла вынікі конкурсу на лепшую беларускамоўную крычалку.**




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Падарунак пераможцы конкурсу Вячаславу Курбаку ўручае карэспандэнтка "РГ" Аляксандра Парахня.**

Панам Шыманскім аказаўся **Вячаслаў Курбака**, юрыст з Маладзечна. Ён прызнаўся, што дасылаў працы на конкурс не для таго, каб атрымаць падарунак, а таму, што спадабалася яго ідэя.

Падчас размовы з карэспандэнтамі "РГ" спадар Вячаслаў падзяліўся сваімі думкамі пра футбол і не толькі.

**– Раскажыце, калі ласка, як пісаліся крычалкі, якія ў выніку перамаглі ў конкурсе?**

– Натхненне да мяне прыйшло падчас працы. Хацеў напісаць і болей, задумы былі. Але бракавала часу.

Гэтыя вершаваныя радкі – далёка не першыя для мяне. Раней мае вершы ўжо друкаваліся ў газетах.

**– Вы бралі нешта за аснову, пішучы свае крычалкі?**

– Вядома, гэтыя радкі – не асабіста мае, я напісаў іх на аснове рускамоўных крычалак. Калі рабіць нешта кардынальна новае, то заўсёды ёсць асцярога, што яно не прыжывецца.

Гэта тычыцца не толькі крычалак, але і ўсяго іншага, што можна пабачыць вакол нас. Напрыклад, калі перакладаюць на беларускую вядомыя замежныя песні, яны застаюцца хітамі, бо іх мелодыі ўжо ёсць у нашай памяці. З новым заўсёды больш складана.

**– Беларускамоўная падтрымка футбалістаў мае перспектыву?**

– Безумоўна! Хто збіраецца на стадыёнах? Гэта часам не столькі аматары футбола, колькі патрыёты свайго горада. Яны хочуць падтрымаць сваё, маладзечанскае.

**Беларускасць тут – магчымасць паказаць, што ў нас ёсць свае традыцыі.**

Гэта тычыцца не толькі футбола. Калі схадзіць на матч нашага хакейнага "Дынама" падчас гульні з маскоўскімі ці рыжскімі дынамаўцамі, часам можна не зразумець, хто каго падтрымлівае. Два "Дынама", а калі і крычалкі на адной мове – то і не адрозніць.

Павінна быць адметнасць, нейкі стрыжань. Наш хакейны клуб мае столькі атрыбутыкі для заўзятараў – шалікі, шапкі, плакаты. Калі б гэта было на беларускай мове, думаю, раскупляліб гэтак жа актыўна.

### "Вельмі цешуся, што маладзечанскі футбол захавалі"

**– Цяпер вас часта можна пабачыць на дамашніх матчах?**

– Так. І не мае значэння, якое месца займае каманда. Для мяне, як і для многіх, было шокам даведацца, што ў гэтым сезоне Маладзечна можа застацца без футбола. Добра, што нейкім чынам усё наладзілася.

**– Як вам новая каманда "Маладзечна-2013"?**

– Я не бяруся іх ацэньваць. Гэта зусім маладыя хлопцы, для большасці з іх гульня ў камандзе – толькі першы крок у футбол. Ім трэба сказаць дзякуй, што яны ёсць. У гэтым сезоне высокіх вынікаў чакаць не варта.

Крыўдна, калі мы цярпім паражэнне ад "Нёмана" з лікам 3:0. Але трэба памятаць, што сёлета і самой каманды магло не быць. Добра, што паспелі ўскочыць у апошні вагон.

**– Якая футбольная падзея ў Маладзечне вас больш за ўсё ўразіла?**

– Вядома, шмат яркіх падзей звязана з "Металургам". А яшчэ памятаю, як у 2001 годзе маладзечанцы на дамашнім стадыёне перамаглі ў БАТЭ з лікам 2:1. Вось гэта было прыемна!

Тады маладзечанская каманда не дала барысаўскаму клубу заняць першае месца. Тады я яшчэ біўся аб заклад са сваім сябрам, які падтрымліваў мінскае "Дынама", і перамог.

### Амаль уся сям'я – спартсмены

**– Адкуль у вас узнікла такая цікавасць да спорту?**

– Гэта пайшло яшчэ з дзяцінства. Памятаю, як бацька браў мяне з сабой на матчы "Металурга". Мне было гадоў пяць і я мала што разумеў. Але адчуваў, што адбываецца нешта неверагоднае: натоўпы людзей, якія не могуць уцісноцца на стадыён, лаўкі замест сучасных сядзенняў, на якіх няма пустога месца. Атмасфера была непаўторная.

**Кожны разумеў, што жыве не проста ў раённым цэнтры, а ў сапраўдным горадзе сонца.**

Пасля хадзіў на матчы ўжо з сябрамі.

**– Цяпер ваша жыццё звязана са спортам?**

– Спрабую сябе, але не ў якасці гульца. Летась з'явілася ідэя паступіць у вучэбны цэнтр па падрыхтоўцы суддзяў у Мінску. Хоць па стане здароўя я не вельмі пасую для гэтага. Але пасля некаторых ваганняў я ўсё ж не пайшоў вучыцца.

**– Як да такога захаплення ставяцца родныя і блізкія?**

– Мая дзяўчына заўсёды была супраць. Калі мы разам глядзім тэлевізар, то я не магу ўключыць ні футбол, ні хакей. А ў выпадку паражэння важна абавязкова сказаць: "Ну што, твае зноў не перамаглі?".

Пры тым яна ў мяне сама спартсменка – бронзавы прызёр Чэмпіянату Беларусі па гіравым спорце. Па ёй ніколі не скажаш, што яна можа падымаць гіру ў 16 кілаграмаў. Добрыя вынікі мае і ў армрэслінгу.

Звычайна, калі я вяртаюся з матчаў "Маладзечна", яна спрабуе адгадаць лік. Нядаўна, калі мы перамаглі ў "Лівадзіі", у яе гэта не атрымалася.

**– Вашы бацькі таксама звязаны са спортам?**

– Так, мой тата – майстар спорту па боксе, трэнер па дзіцячым хакеі. Але цяпер працуе не па спецыяльнасці. Маці займалася фехтаваннем. Родны дзядзька быў галкіперам. Вось самае галоўнае вы ў мяне не запыталіся: чаму пан Шыманскі?

**– Дарэчы, чаму ж?**

– У маёй бабулі дзявочае прозвішча было Шыманская. Сама яна з Лебедзева, што на Маладзечаншчыне. Там я нарадзіўся і правёў першыя гады свайго жыцця. Павел Іванавіч Шыманскі – мой продак, які быў вельмі адукаваным чалавекам. Ён меў каліграфічны почырк, таму яго часта запрашалі, каб напісаць дамовы, даверанасці. Да таго ж ён быў у добрых стасунках з лебедзеўскім панам Феліксам Закрэўскім. У мяне захавалася шмат дакументаў і рэчаў з таго часу. Таму ў каментарах я і стаў панам Шыманскім.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НАВІНЫ

### "Смаргонь" выйграе

**СМАРГОНЬ.** У 16-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе 17 жніўня футбольны клуб "Смаргонь" гуляў дома з лідарам першынства – "Гарадзеяй". Гульня завяршылася перамогай "Смаргоні" 2:1.

Напрыканцы першага тайма **Мікалай Рындзюк** вывеў смаргонцаў наперад. Госці аднавілі раўнавагу на 50-й хвіліне матчу. А за некалькі хвілін да заканчэння гульні пераможны гол забіў **Сяргей Крот**.

– Мы паважаем любога саперніка. Сёння мы атрымалі перамогу – значыць, мы былі мацнейшымі, – адзначыў у інтэрв'ю сайту fc-smorgon.by галоўны трэнер "Смаргоні" **Павел Бацюта**. – Лік – па гульні. У "Гарадзеі" былі моманты, і вельмі добрыя моманты. Я лічу, што нашы замены, зробленыя ў другім тайме, ўзмацнілі гульню: пайшлі контратакі. Матч ажывіўся. Гульня ішла на двое варот. Абедзве каманды паказвалі адвовішчны футбол. Я не прымяншаю вартасцяў "Гарадзеі". У нас атрымалася забіць другі гол, а ў сапернікаў – не. Гэта футбол. Хачу адзначыць, што мы вельмі сур'ёзна рыхтаваліся да гэтай сустрэчы. Адсюль і вынік.

"Смаргонь" з 24 ачкамі займае цяпер сёмае месца.

### Клубы з Маладзечаншчыны прайгралі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У 15-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 17 жніўня "Маладзечна-ДЮСШ-4" прайграла 2:3 клубу "Старыя Дарогі".

"Забудова-2007" з Чысці ў гасцях саступіла "Аграсэрвісу" (Слуцкі раён) з лікам 0:2.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" апусцілася на трэцяе месца ў турнірнай табліцы, "Забудова-2007" займае перадапошняе, дванаццатае.

### "Вілія"-"Клецк" – 2:3

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 17 жніўня, "Вілія" ў матчы 15-га тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе дома прайграла "Клецку" 2:3.

З-за таго, што вынікі матчаў з удзелам клуба "Смалявічы" анулявяны, "Вілія" пазбавілася трох ачкоў. Цяпер віляйчане займаюць апошняе месца.

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРС

## Угадай лік матчу "БАТЭ" – "Смаргонь" і выйграй білет на матч "Смаргоні"!

**Працягваем сумесны конкурс "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь". Мінулым разам ніхто не ўгадаў лік матчу "Смаргонь" – "Гарадзея" ды і актыўнасці вялікай не назіралася.**

Таму заклікаем быць больш заўзятымі, тым больш што ў гэту нядзелю ў 1/8 фіналу Кубка Беларусі "Смаргонь" у гасцях гуляе з самым тытулаваным беларускім клубам – БАТЭ.

Праверце свае здольнасці! Ад вас патрабуецца прадказаць лік гульні **"БАТЭ" – "Смаргонь"** і назваць каманду, якая заб'е першай.

Адказ дашліце да 12 гадзін 25 жніўня (нядзеля) праз SMS на нумар **8(044) 566-26-99** ці пакіньце ў каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў асабістых паведамленнях карыстальніку anrogach2009 на сайце fc-smorgon.by.

Абавязкова ўкажыце ваша імя і нумар мабільнага (на сайтах ён не будзе відаць. На rh.by пішыце яго ў графе "e-mail").

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні". Як атрымаць выйграны білет, вам паведамяць.

Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты".

**Аддзел інфармацыі.**

ФОТАФАКТ



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**З 16 па 18 жніўня ў адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня" прайшоў рэспубліканскі фестываль летніх аздараўленчых лагераў "Новы фармат лета". Ідзе дэлегацыя лагера "Smart camp".**

## Камент-эксперт



Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**"Вечарынка ў Паўлінкі" – праз сто год зноў у Радашкавічах**

Проста цудоўная імпрэза! Такой шчырасці даўно не бачыў. Адчуваеш, што ты праўда жывеш вось цяпер, у гэты момант. ***Аляксей.***

Шкада, што няма фотаздымкаў з вечарынкі ў Радашковічах 100 год таму. ***Спецыяліст.***

**Ці быў сёлета конкурс у медыцынскім каледжы?**

Набіраюць медыкаў і ва ўніверсітэты, і ў каледжы. Толькі не вядома, дзе яны дзяюцца, як каровы языком іх злізваюць. У бальніцах усёроўна спецыялістаў не хапае. ***Спецыяліст.***

Цікава, ці ёсць у прграме прадмет, на якім вывучаюць правілы ветлівасці і культуры мовы. Вядома, медыкі найперш павінны лячыць умець, але часам такія "медсястрычкі" трапляюцца, што, здаецца, толькі ў ветырынары пусціў бы. ***Аляксей.***

Тое, што ў абітурыентаў балы 8,9 ці 8,8 гэта не значыць, што яны разумнейшыя. Усім вядома, як у школе завышаюць балы і нацягваюць атэстат. Таму трэба праводзіць унутраныя экзамены. Гэта будзе паказчык ведаў, а не атэстат за актыўны ўдзел у школьным жыцці. ***Студэнт.***

**"Не баяцца лячыць – галоўнае для доктара", – лічыць малады спецыяліст Павел Ганчар**

Але ж і не прызнаўся, колькі атрымаў. ***Аляксей.***

■ ЗАХАПЛЕННІ

# Лялькі Веранікі Шчаўлік



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Фігуркі дзетак.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Вераніка Шчаўлік дэманструе адну з лялек.

**МЯДЗЕЛ. Прыгожыя лялькі ў старадаўніх строях, забаўныя казачныя персанажы, мініяцюрныя фігуркі дзетак – усе гэтыя вырабы стварыла кіраўнік гуртка Крывіцкага цэнтра народных рамёстваў Вераніка Шчаўлік. Зробленыя яны з палімернай гліны.**

– Яна быццам пластылін адразу, – расказвае Вераніка. – Робіш скульптурку, запякаеш у духоўцы пры тэмпературы 130 градусаў. У выніку атрымліваецца як сапраўдная пластмаса.

**– Дзе ўбачылі такую тэхніку?**

– У нашу бібліятэку завезлі кнігу "Палімерная гліна". Пачытала, спадабалася. Пацікавілася таксама ў інтэрнэце. Займаюся мастацкай керамікай, то не вельмі цяжка было асвоіць. Зрабіла першую ляльку – такога амерыканскага працаголіка Боба. Мне вельмі спадабалася. І падумала: "Чаму б не зрабіць калекцыю?"

Пачала працаваць з палімернай глінай Вераніка менш за год таму, але захапілася гэтай справай сур'ёзна: ужо каля двух дзясяткаў маленькіх скульптур зрабіла. Кожная нечым адметная, але ж асаблівую цікавасць выклікаюць лялькі.

– Яны доўга робяцца, дзесьці месяц кожная, – тлумачыць майстрыха. – Усярэдзіне каркас, зроблены з дроту. Яшчэ дабаўляецца каменьчык, каб лялька стаяла. Абпальваецца. Шыецца касцюм – і гэта самае складанае, тыдні два займае. Потым ляльку трэба размаляваецць. Працаёмкі занятак – зрабіць валасы. Ёсць штучныя, ёсць натуральныя. Увогуле, працэс вельмі доўгі, затое прыгажосць якая!

**– Чаму захапіліся вырабамі з такога матэрыялу?**

– Са звычайнай гліны не зробіш такі твар. А з палімернай ён атрымліваецца як жывы.

**– Ці распаўсюджаная гэтая тэхніка ў Беларусі?**

– У нас толькі ўваходзіць у моду. Калі рабіць прафесійныя вырабы, то не кожны кераміст здолее, трэба быць мастаком ці скульптарам. Да таго ж, матэрыял дарагаваты.

Захапленне гэта не з танных: матэрыял амерыканскай вытворчасці, купляе Вераніка яго ў сталічных крамах.

**– Бачу, шмат фігурак маленькіх дзетак зрабілі...**

– У мяне маленькая дачка. Гляджу на яе – так шкада, што яна расце, мяняецца. Хочацца, каб заўсёды былі дзеткі маленькія. Вось і раблю такіх.

Працы Веранікі захоўваюцца дома, можна пабачыць іх і на выставе ў цэнтры рамёстваў.

– Буду працягваць гэту справу. Спадзяюся, у мяне такіх твораў будзе вельмі шмат.

**– Што хочацца зрабіць?**

– Шмат планаў ёсць. Хочацца зрабіць больш казачных персанажаў: троляў, эльфаў, гномаў, герояў казкі "Маша і мядзведзь". І калекцыю лялек розных эпох папоўніць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Палімерная гліна – пластычны матэрыял для лепкі невялікіх вырабаў (упрыгожанняў, скульптурак, лялек) і мадэлявання, які застывае на паветры ці падчас нагрэву.

■ ГАРАСКОП (23-29 ЖНІЎНЯ)



**Авен.** Перыяд спрыяльны. Вы будзеце рабіць менш памылак, а вашы ўчынкі ва ўсіх сферах будуць рацыянальнымі і ўзважанымі.



**Блізняты.** Гэты перыяд выдатна падыходзіць для таго, каб узнавіць страчаныя сувязі. Таму напамінайце аб сабе, мірыцеся. Лёс вам у гэтым дапаможа.



**Цялец.** Вы будзеце актыўныя і энергічныя. Але накіроўвайце энергію ў правільнае рэчышча, тады яе хопіць на доўгі час.



**Рак.** Асаблівую ўвагу трэба надаць прафесійнай сферы дзейнасці. Асцярожна аднясіцеся да выбару новых партнёраў. Не пагаджайцеся на першую ж прапанову, бо пасля пашкадуеце.



**Леў.** Верагодна, у вашай галаве ўтвараецца хаос, які патрабуе навядзення парадку. Калі ёсць патрэба, выгаварыцеся, нават пакрычыце, але разбярыцеся ў адносінах з блізкімі людзьмі. Не трэба замоўчваць праблемы – гэта не лепшы выбар.



**Дзева.** Сканцэнтруйце свае сілы і ўвагу на самай важнай справе. Толькі ў гэтым выпадку вы зможаце давесці яе да канца, і вынікі будуць выдатнымі.



**Шалі.** Вы можаце адпачыць, пафантазіраваць, памарыць. Магчыма, у вашым асяроддзі знойдуцца людзі, якія захочуць перакласці свае праблемы на вас. Не будзьце мяккасардэчнымі, навучыцеся казаць "не".



**Скарпіён.** Не спяшайцеся. Прысвяціце пэўнай справе больш часу, зрабіце яе якасная і эфектыўнай. Інакш у ёй не будзе сэнсу.



**Стралец.** Вы можаце ўвасобіць у жыццё самыя смелыя планы і жаданні. Галоўны ваш вораг – сумненні. Пераадолеўшы іх, усё збудзецца.



**Казярог.** Вы можаце трапіць у сітуацыю, калі за вамі будзе апошняе слова. Ад вашага рашэння будзе многае залежаць. Але трэба ўсё ўзважыць.



**Вадалей.** Вы ў гэты час, як кажуць, будзеце на кані. Будзеце вышэй за многія праблемы і непрыемнасці. Галоўнае – унутраная ўпэўненасць у сабе.



**Рыбы.** Не будзьце такімі сур'ёзнымі. Дазвольце хоць некаторы час быць легкадумнымі. Гэта дапаможа завесці новыя знаёмствы. Праца ў гэты час будзе няпростай, але такая нагружанасць часовая з'ява.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

■ РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Крымінальная меладрама **"Запальванне"** (Іспанія, 2013, для гледачоў пасля 16 год)
23 жніўня – 21.00
24 жніўня – 17.00
25 жніўня – 21.00
26 жніўня – 19.00
27 жніўня – 21.00
28-29 жніўня – у 16.30, 21.00
Кошт білета –35 000 рублёў.

Фэнтэзі, баявік **"Расамаха: Бессмяротны"** 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
23 жніўня – 18.30
24 жніўня – 19.00
25 жніўня – 18.00
26 жніўня – 21.00
27-29 жніўня – 18.30
Кошт білета – 40 000/45 000 рублёў.

Фантастычны экшн **"Ціхаакіянскі рубеж"** 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25 жніўня – 15.00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Турба"** (ЗША, 2013)
23 жніўня – 16.30
24 жніўня – 15.00
25 жніўня – 13.00
Кошт білета – 22 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Прыгоды Гекльберы Фіна"** (Германія)
23 жніўня – 17.30
24-25 жніўня – 15.30, 17.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама, камедыя **"Каханне жыве тры гады"** (Францыя, Бельгія)
23-25 жніўня – 19.30, 21.30
26 жніўня – 21.30
27-29 жніўня – 19.30, 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыя **"Прыгоды рэактыўнага парсючка"** (Беларусь)
27-29 жніўня – 17.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Кінатэатр "Радзіма" запрашае на начны нон-стоп

**МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню такая акцыя ладзіцца ноччу з 24 на 25 жніўня.**

За адну ноч пакажуць некалькі кінапрэм'ер:

– баявік **"Запальванне"**,
– фэнтэзі, баявік **"Расамаха: Бессмяротны"** ў фармаце 3D,
– анімацыйныя прыгоды **"Турба"**.

**Пачатак сеанса ў 22.30.**

Кошт аднаго квітка 90 000 рублёў.

Набыць квіткі можна ў касе кінатэатра ад 14 жніўня.

Удзельнічаць у акцыі можна толькі тым, хто мае 18 год.

**Аддзел інфармацыі.**

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 5 | 4 | |
| 7 | 3 | | | | 4 | | 1 | |
| | | | | 2 | | | 8 | |
| | | 1 | 2 | | | 3 | | 4 |
| | | | | 9 | | | | |
| 5 | | 8 | | | 6 | 1 | | |
| | 6 | | | 8 | | | | |
| | 8 | | 9 | | | | 6 | 2 |
| | 7 | 9 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

24 жніўня, субота

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 +17 741 ↓ 8 | +12 +18 742 ↓ 8 | +12 +13 742 ↓ 7 | +12 +18 739 ↓ 5 |
| Вільня | +12 +19 752 ↓ 1 | +11 +18 752 ↓ 4 | +10 +16 751 ✓ 6 | +12 +19 750 ↓ 6 |

Тэмпература паветра (мм рт. сл.), Вільготнасць паветра, Ціск, Кірунак і хуткасць ветра м/с, Усход, заход на Малодзечна

Усход 6.07 Заход 20.22 Даўжыня дня 14.15

Усход 21.17 Заход 10.31 Квадра 3

Віцебск +13 +17 748 ✓ 9; Гродна +12 +18 751 ↓ 4; Мінск +12 +18 742 ↓ 8; Магілёў +12 +13 745 ↓ 9; Брэст +11 +19 751 ↓ 4; Гомель +16 +18 747 ↓ 6

## ПРЫКМЕТЫ

- Лаўрэн (23 жніўня). На Лаўрэна глядзелі апоўдні на ваду: калі яна ціхая, то і восень чакаецца ціхая, а зіма без завірух.
- Вераб'і хаваюцца пад дах – будзе бура.

## Чытайце праз тыдзень:

- Як псіхалагічна падрыхтаваць дзіця да школы? Як выхоўваць школьніка і не згубіць з ім добрыя адносіны? Парады псіхолага Таццяны Жданавай – у наступным нумары.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА

Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

На маладзечанскім стадыёне для пляжнага валейбола ад 16 жніўня праходзяць рэспубліканскія спартакіяды сярод школьнікаў. Момант гульні паміж камандамі Гродна і Мінска.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Хто такая Паўлінка? Ці назвалі б вы сваю дачку гэтым імем?

**Сяргей Кірзяёнак, вайсковец:**

– Паўлінка – гераіня аднайменнай п'есы. Як жа мне не ведаць, калі я сам ролю пана Адольфа Быкоўскага выконваў у тэтральнай пастаноўцы? Дачку? Ну хіба толькі двайняты будуць: Паўлінка і Адольф.

**Раман Жалязко, навучэнец:**

– Паўлінка – гэта такі выраб з паперы.

**Ганна Кічыгіна, дызайнер:**

– Паўлінка – галоўная гераіня літаратурнага твора Янкі Купалы, здаецца. Так, дачку магла б назваць. Дзякуй за падказку. Цудоўнае імя.

**Ганна Тамковіч, перакладчык:**

– Ведаю, гэта з п'есы Купалы. Галоўная гераіня. Там яшчэ ў яе кавалер быў, а як звалі яго, не памятаю. Янка, мусіць? Дачку не назвала б так. Не, мне не падабаецца. А як у пашпарце запісаць: Паўла ці як?

**Настасся Калініна, прадавачка:**

– Дзеўка з п'есы Янкі Купалы. Дачку – не, не назвала б.

**Ганна Бурачонак, школьніца:**

– Паўлінка? Так п'еса Янкі Купалы называецца. Ну і, адпаведна, галоўную гераіню так звалі. Вучылі мы ў школе. А дачку? Не, дачку не назвала б. Мне сабачку нядаўна падарылі, магчыма, яго назвала б.

**Наталля Каваленка, настаўніца:**

– Як хто такая Паўлінка? Вядома, гераіня Янкі Купалы! Дачку не назвала б так. Я больш схільная да традыцыйных імёнаў. Майго мужа завуць Валеры. Пагадзіцеся, Паўліна Валер'еўна – гэта занадта экзатычна!

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 34 (956) 23.08.2013.
Друкарня ТДА "Знаменне", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 703. Падпісана ў друк у 10.00 22.08.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.